КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

# Наша Слова

Штотыднёвік
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 25 (289)

20 чэрвеня 1996 г.

Кошт — 1000 рублёў



TV-праграма



Рупліўцы
ЛЕАНІД ЛЫЧ
Стар. 3 і 7

Год Касцюшкі
ТАСТАМАНТЫ
Стар. 4


## ПОСТУП ТЫДНЯ

○ **22 ЧЭРВЕНЯ — 55 ГАДОЎ, ЯК ГІТЛЕРАЎСКАЯ ГЕРМАНІЯ НАПАЛА НА САВЕЦКІ САЮЗ.** Першай ворагаў сустрэла беларуская зямля, за волю якой загінуў кожны чацвёрты беларус.

○ ***КАМІСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ, НАВУЦЫ І КУЛЬТУРЫ ЎНЕСЛА НОВЫЯ ДАПАЎНЕННІ І ЗМЯНЕННІ Ў ЗАКОН «АБ АДУКАЦЫІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ».*** *Перапрацаваны і дапоўнены артыкул аб мове навучання, дзе сказана, што асноўнымі мовамі выхавання і навучання з'яўляюцца беларуская і руская. Дзяржавай ствараюцца ўмовы для дасягнення і забеспячэння фактычнага раўнапраўя беларускай і рускай моваў у сістэме адукацыі, што прадугледжвае развіццё і расшырэнне сферы выкарыстання беларускай мовы ў якасці прыярытэту дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь.*

○ **КІРАЎНІК БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА СЯМЁН ШАРЭЦКІ ПРЫНЯЎ** старшыню Інтэграцыйнага камітэта Расіі, Беларусі, Казахстана і Кыргызстана Нігматжана Ісінгарына.

У час гутаркі ён выказаў свае погляды на праблемы інтэграцыі краін былога СССР і ўякасці прыкладу назваў Еўрапейскі саюз, дзяржавы якога, «усё больш цесна зліжаючыся адна з адной, не страчваюць уласнага суверэнітэту». Паводле слоў беларускага спікера, ужо позна гаварыць аб федэрацыі ці канфедэрацыі народаў СНД. «Час для гэтага ўпушчаны, і самае разумнае ва ўзнікшых умовах — гэта весці размову аб саюзе незалежных дзяржаў».

○ ***У РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ АДБЫЛІСЯ ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ.*** *У другі тур выйшлі Барыс Ельцын і Генадзь Зюганаў.*

○ **У БАЛГАРЫІ Ў ТРЭЦЯЙ СЕСІІ ЕЎРАПЕЙСКАЙ МІЖПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ ПРАВАСЛАЎЯ** (ЕМАП), якая аб'ядноўвае парламентарыяў 20 краін кантынента, удзельнічала дэлегацыя беларускіх дэпутатаў. Яе ўзначальваў старшыня Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ігар Катляроў. У цэнтры ўвагі ўдзельнікаў міжнароднага рэлігійнага форуму былі праблемы ўмацавання міжпарламенцкага супольніцтва еўрапейскіх краін на аснове адраджэння хрысціянскіх каштоўнасцей, развіцця гуманістычных ідэалаў і духоўнага з'яднання людзей.

○ ***ЗАВЕРШАНЫ КОНКУРС НА ЛЕПШЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ ТЭКСТ ДА ДЗЯРЖАЎНАГА ГЕРБА І ДЗЯРЖАЎНАГА СЦЯГА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.*** *Конкурс праходзіў з 25 снежня 1995-га па 1 мая 1996 года ў адпаведнасці з прэзідэнцкім Указам «Аб некаторых мерах па забеспячэнню статусу дзяржаўнай сімволікі». На конкурс паступіла 27 аўтарскіх тэкстаў. Сярод пераможцаў ёсць і беларускія пісьменнікі: Алесь Савіцкі, Пятро Прыходзька і Браніслаў Спрынчан.*

○ **НА СОЙМЕ БНФ**, які нядаўна адбыўся, выконваючым абавязкі старшыні Фронту прызначаны Лявон Баршчэўскі.

○ ***ЗБОРНАЯ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛЬНІКАЎ ПРЫНЯЛА ЎДЗЕЛ У МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ НАВУЧЭНЦАЎ У ВЕНГРЫІ.*** На працягу сямі дзён юнакі і дзяўчаты з Беларусі, Венгрыі, Галандыі, Грэцыі, Грузіі, Расіі, Румыніі, Украіны і Югаславіі чыталі даклады па чатырох секцыях — па фізіцы, інфарматыцы, матэматыцы і экалогіі. Уступаючы месца іншым камандам па колькасці прачытаных дакладаў, беларусы ўсё ж атрымалі перамогу па высокім узроўні падрыхтаваных работ.

# Наш дом — Беларусь

***Адкрыты ліст сябрам Грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі і ўсім свядомым людзям Айчыны***

У газеце «Народная воля» № 53 побач з нашым «Политическим заявлением» надрукавана заява Грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі. Цалкам падзяляю трывогу ўсіх свядомых грамадзян за нашу Бацькаўшчыну, за незалежную Беларусь. Кожнае слова, кожны радок Заявы адгукаецца ў маёй душы, выклікае патрэбу працаваць над тым, каб гэтыя ідэі ад іх добрага пажадання перавесці ў практычную плоскасць. Для гэтага я буду выкарыстоўваць трыбуну Вярхоўнай Рады (Парламента Рэспублікі Беларусь). Каб ідэі Грамадскага камітэта прынеслі добры плён, прапаную вакол Камітэта стварыць шырокае аб'яднанне «Наш дом — Беларусь», якое будзе змагацца за незалежную суверэнную Рэспубліку Беларусь, за галоўныя нацыянальна-вызначальныя каштоўнасці беларускага народа і асноўныя чыннікі дзяржавы — мову, культуру, гісторыю, нацыянальныя сімвалы. Я заўжды ставіў нацыянальна-духоўныя каштоўнасці на першае месца ў сваёй свядомасці і ў свядомасці сваіх паплечнікаў. Я ведаю, што ў Вярхоўнай Радзе Рэспублікі Беларусь будзе многа дэпутатаў, якія знойдуць у сабе смеласць і разумны сэнс падтрымаць варункі ў гэтым напрамку. Гвалтоўная, незаконная змена сімволікі — недарэчнасць, якую не разумее цэлы свет. Але гэта не ўсё. Для мяне наша гісторыя і сімволіка — гэта абарона правоў чалавека, дэмакратыі, незалежнасці, сацыяльная абарона кожнага жыхара нашай Бацькаўшчыны. Гэта палітыка не жабракоў і нейкіх бездапаможных ахвяр, а палітыка гаспадароў сваёй сутнасці, свайго гасціннага дома, дзе змогуць жыць усе, хто паважае сваё жыллё і клапоціцца за ягоны дабрабыт. Вось таму я Ваш, таму я з Вамі. Прыйшоўшы ў Вярхоўную Раду Рэспублікі Беларусь, я ніколі не дзяліў дэпутатаў на «ворагаў» і паплечнікаў, як гэта робяць некаторыя вышэйшыя кіраўнікі нашай дзяржавы. З'яўляючыся сябрам парламенцкай фракцыі «Згода», якая ўзнікла на базе групы дэпутатаў з «Канслідацыі», я буду і далей працаваць у напрамку незалежнай суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет 19 верасня 1991 года прыняў Закон аб дзяржаўных сімвалах Беларусі. Я буду рабіць усё магчымае, каб гэты Закон быў укаранёны ў практыку нашага палітычнага і грамадскага жыцця. Што супраць гэтага — незаконна. Наша гістарычная сімволіка — гэта дух народа Беларусі, увасабленне народных, гістарычных, эстэтычных, маральных каштоўнасцей. Нашы сімвалы — гэта нашы гісторыка-палітычныя святыні. Ганьба тым, хто гэта не разумее. Але смутна і шкада нашых кіраўнікоў, якім мала пра гэта казалі, мала тлумачылі нашы гістарычныя стасункі. Гістарычнае будучыня нашага народа будзе залежыць ад нашых сумесных намаганняў адстаяць нашы святыні, нашу незалежнасць, суверэнітэт.

Такім чынам, мая трыбуна ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь — гэта трыбуна «Грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі», шырокага аб'яднання «Наш дом — Беларусь».

**Віктар ЦЯРЭШЧАНКА,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, старшыня Беларускага Таварыства «Народная дыпламатыя».**

*Беларускае замежжа*

## Напярэдадні сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі

У Нью-Йорку адбылося пашыранае пасяджэнне Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага задзіночання з удзелам старшынь аддзелаў Юркі Азаркі (Нью-Джэрсі), А.Міцкевіча (Нью-Йорк) і ад рэдакцыі «Беларуса» — Зоры і Вітаўта Кіпеляў. У парадку дня былі два пункты: 1) Дзейнасць БАЗА ў сувязі са складаней сітуацыяй на Бацькаўшчыне і 2) Падрыхтоўка чарговай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Клііўлендзе.

Пасля інтэнсіўнага абмену меркаваннямі пастанавілі заснаваць інфармацыйны цэнтр або ў Нью-Йорку, або ў Нью-Джэрсі. Нарады па падрыхтоўцы сустрэчы будуць працягвацца.

Тады ж на вечарыне ў Аддзеле Беларуска-Амерыканскага задзіночання (БАЗА) адбыўся вечар, адным з галоўных пытанняў праграмы якога было вылучэнне дэлегатаў на 26-ы кангрэс БАЗА. Вылучылі 10 асоб, якія будуць прадстаўлены на зацвярджэнне Галоўнай управе. Па прапанове Юркі Васілеўскага, Раісы Станкевіч і Ф.Бартуля прысутнымі было ўхвалена ўвядзенне новага конта Беларускай хуткай дапамогі — «Бел-Пом». Адразу ж актыўна быў праведзены збор ахвяраванняў.

Вечарыну вёў старшыня Галоўнай управы БАЗА А.Шукелойць, які напрыканцы нагадаў, што наступным разам плануецца пашыранае пасяджэнне Галоўнай управы ў Гайленд-Парку.

**Па інфармацыі бюлетэня «Весткі й паведамленні БАЗА». (Нью-Йорк).**

*Рэха*

# Украінцы — за Беларусь. За каго беларусы?

26 красавіка сёлета Беларусь адзначала дзесятую гадавіну з дня буйнейшай у гісторыі чалавецтва тэхналагічнай катастрофы, вынікі якой адбіліся на лёсе мільёнаў людзей, пераважна жыхароў Беларусі і Украіны.

У сталіцы гэты дзень быў адзначаны жалобным шэсцем «Чарнобыльскі шлях». Не варта паўтарацца і яшчэ раз нагадваць, як паставіліся да гэтай мірнай акцыі ўлады. Але сёння ёсць сэнс згадаць пра іншае: сярод яе ўдзельнікаў было каля двух дзесяткаў грамадзян Украіны, якія прыехалі ў Менск, каб выказаць сваё спачуванне беларускаму народу ў дзень агульнай для Беларусі і Украіны трагедыі.

Пасля справакаваных дзяржаўнымі органамі сутыкненняў гэтыя грамадзяне Украіны (сярод іх — чацвёра «ліквідатараў») былі затрыманыя міліцыяй. І нават у час, калі рыхтавалася гэтая публікацыя, сямёра з іх па-ранейшаму знаходзіліся ў зняволенні.

Хаця ТБМ не мела ніякага дачынення да прысутнасці і дзейнасці ў Менску гэтых асобаў, яны прыцягнулі да сябе ўвагу шэрагу сяброў Таварыства чыннай салідарнасцю з беларускім народам. Фармальна кажучы, дзейнасць украінцаў адпавядала пунктам 2.5 і 2.7 Статута ТБМ, якія датычаць такіх мэтаў Таварыства, як пашырэнне сувязяў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай культуры ды абароны правоў і інтарэсаў сяброў ТБМ.

Гэта дало падставы аўтару гэтых радкоў неўзабаве пасля падзеяў 26 красавіка прапанаваць Сакратарыяту ТБМ зацвердзіць тэкст напісанай ім заявы і дасласць яе на адрас пасольства Ураіны і шэрагу ўкраінскіх нацыянальных арганізацый. Заява мела наступны выгляд:

«ТБМ выказвае шкадаванне сем'ям і калегам грамадзян Украіны, затрыманых беларускімі ўладамі 26 красавіка г.г. і падзяку ўкраінцам — удзельнікам грамадскай акцыі «Чарнобыльскі шлях» за іхнюю салідарнасць з народам Беларусі».

Нягледзячы на сціпласць гэтага тэксту, падпісаны ён быў толькі трыма сябрамі Сакратарыята Л.Дзяцэвіч, А.Глушко ды У.Панадам.

Ці сапраўды ўкраінцы былі не вартымі падтрымкі Таварыства беларускай мовы? Сваімі ўражаннямі пра побыт з імі ў спецпрыёмніку-размеркавальніку ўпраўлення ўнутраных справаў Менскага гарадскога выканаўчага камітэта падзяліўся са мною ўдзельнік «Чарнобыльскага шляху» і сябра рэдкалегіі «Нашага слова» Лявон Баршчэўскі:

— Мне давялося сядзець у адной камеры з Сяргеем Патапавым, Андрэем Гочам і Васілём Дрыгайлам. Як асобы яны зрабілі на мяне вельмі прыстойнае ўражанне. Яны — не экстрэмісты. Яны прыехалі да нас, ясна ўсведамляючы сваю мэту: супрацьдзеяць гвалту, а не чыніць яго. Таму, калі б не правакацыі супраць дэманстрантаў, дык украінцы не звярнулі б на сябе нічыёй увагі. Бо нават следства пацвярджае, што яны не перакульвалі міліцыйных машын, не мелі пры сабе ніякай зброі. Не мець нічога, што можа быць патрактавана як зброя — гэта ўвогуле іх прынцып.

Усе гэтыя ўкраінцы адразу запатрабавалі перакладчыка, не жадаючы паразумявацца з адміністрацыяй спецпрыёмніка па-расійску. «Калі не, дык хай гавораць з намі па-беларуску, мы зразумеем», — казалі яны. «Мы вам дадим переводчика! Будете здесь сидеть — закиснете!» — гэткай была рэакцыя другога боку.

Украінцы адразу ж абвясцілі галадоўку. Патапаў і Гоч сказалі, што яе прычына — не затрыманне іх, а стаўленне беларускіх уладаў да сваіх грамадзян. Іх уразіла, што тут з народам абыходзяцца, як з быдлам.

Яны не былі нацыяналістамі. Адзін з іх — Сяргей Патапаў — чыстакроўны расіец з Харкава. Але ён патрабаваў, каб следства вялося па-ўкраінску — на мове, якую ён добра ведае, альбо па-беларуску.

У апошні дзень майго з імі побыту Гоча выклікаў на допыт плячысты чалавек у спартовым касцюме з надпісам «Рэмба». Той, вярнуўшыся, расказваў, што гэты чалавек, гаворачы па-ўкраінску, запалохваў яго, пагражаючы скалечыць. Потым выклікалі наступнага з іх. У гэты час прыйшоў загад аб маім вызваленні.

Я падзяліўся ўражаннямі аб сарака гадзінах, праведзеных у камеры з украінцамі. Але я не перастаю думаць аб тым, што гэтыя людзі знаходзяцца ў зняволенні ўжо больш за месяц...

*Лёс гэтых людзей сёння вырашаецца без нашага ўдзелу. Але застаецца пытанне: ці з'яўляецца выступленне чалавека ў абарону беларушчыны крытэрыем блізкасці яго да ТБМ? Ці можа ён спадзявацца на падтрымку Таварыства?*

**У.ПАНАДА.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



АЛЕ!

## «Во славу Родины»: прыстрэлка па прафесіяналах культуры?

У свой час я паслала ў рэдакцыю «Во славу Родины» ліст, у якім выказала нязгоду з некаторымі выказваннямі наконт прафесіяналізму ў культуры былога прарэктара Беларускага універсітэта культуры А.К.Лягчылава, надрукаванай у згаданай газеце. Мой ліст не надрукавалі, і такім чынам грамадскасць мае аднабаковыя звесткі пра сучасную дзейнасць такой важнай для краіны вышэйшай навучальна-даследчай установы, як Беларускі інстытут праблем культуры. Усё ж, відаць, А.К.Лягчылаў павінен ведаць, што гэта «не этакие курсы повышения квалификации». Акрамя распрацоўкі праблем мастацкай адукацыі, павышэння кваліфікацыі і падрыхтоўкі кадраў культуры і мастацтва на высокім узроўні (што таксама вельмі важна!), БелІПК займаецца сур'ёзнымі навуковымі комплекснымі даследаваннямі, у тым ліку распрацоўкай праектаў праграм адраджэння і развіцця нацыянальнай культуры. Паміж Беларускім універсітэтам культуры (БУК) і БелІПК склалася добрае ўзаемадзеянне. У БелІПК не толькі «наших сотрудников использует», але і яго прафесура чытае лекцыі ў студэнцкіх аўдыторыях БУКа. У гэтым бачыцца пераемнасць і высокі прафесіяналізм навучання будучых і цяперашніх работнікаў культуры. І тут «не роскошь для сегодняшнего дня». Да раскошы культуры нашай вельмі і вельмі далёка. А вось без высокапрафесійных культурных кадраў дзяржаве будзе цяжка будаваць і сучасную гаспадарчую структуру.

Яшчэ больш здзівіў «накат» армейскай газеты з дапамогай А.К.Лягчылава на былы бібліятэчны факультэт БУКа і «выкрыванне» яго кадраў у непрафесіяналізме. Як вядома, Беларускі універсітэт культуры ўжо не мае чыста бібліятэчнага факультэта (каму ж гэта ведаць, як не прарэктару па навуцы!). Два гады як дзейнічае факультэт бібліятэчна-інфармацыйных сістэм (ФБІС), які аб'ядноўвае і значна пашырыў спецыялізацыю, уключыў шэраг новых спецыяльнасцяў, у тым ліку бібліятэказнаўства і беларускую мову і літаратуру, музеязнаўства. На факультэце працуе высокакваліфікаваны прафесарска-выкладчыцкі састаў, дактары, кандыдаты навук, прафесары, дацэнты. ФБІС мае (як яшчэ бібліятэчны факультэт) даўнія традыцыі ў падрыхтоўцы высокакласных спецыялістаў — ён родапачынальнік інстытута, а потым універсітэта культуры.

Можна толькі здагадвацца, чаму зроблена атака і на асабіста дэкана факультэта — Алега Анатольевіча Трусава. У той час як ён шырока вядомы ў вучоным свеце і ў грамадстве як гісторык, археолаг, актыўны грамадскі дзеяч. Ён кандыдат гістарычных навук, аўтар больш за 120 навуковых прац, працаваў выкладчыкам у Менскім педагагічным універсітэце імя М.Танка, Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім гуманітарным ліцэі. Менавіта археалогію (гісторыю матэрыяльнай культуры), за якую, аказваецца, А.К.Лягчылаў і паважае А.А.Трусава, чытае цяперашні дэкан студэнтам. А.А.Трусаў лічыць магчымым яшчэ болей пашырыць дыяпазон спецыялізацый на ФБІС, увесці такія, як бібліятэкар-рэферэнт з веданнем розных моў (польскай, летувіскай, украінскай, расійскай і інш.), менеджэр (арганізатар) бібліятэчнай справы і інфармацыі (з веданнем камп'ютараў), архіварыус, кніжны гандаль. А паколькі А.А.Трусаў мае яшчэ і вялікі вопыт у вырашэнні арганізацыйных пытанняў, то лічу, што «культура — тонкая вещь» (выраз газеты «Во славу Родины») і наш універсітэт атрымалі ў асобе гэтага чалавека менавіта прафесіянала сучаснага ўзроўню. Так што дазвольце катэгарычна не пагадзіцца з тым, пра што паведаміла газета «Во славу Родины». Хаця, канешне, вельмі добра, што армейская газета на такім узроўні зацікавілася праблемамі падрыхтоўкі прафесіяналаў культуры. Толькі, барані Бог, каб нехта не заняўся «адстрэлам» гэтых самых прафесіяналаў на ўзлёце па прычынах, пра якія можна, паўтару, толькі здагадвацца.

**Л.А.ДЗЯМЕШКА,**
**прафесар Беларускага універсітэта культуры.**

# Нацыянальная ідэя – беларуская перспектыва

Другі за травень навукова-практычны семінар правёў цэнтр «Беларуская перспектыва», на гэты раз па тэме «Грамадзянская супольнасці і праблемы нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі». Як бачна з назвы, праблема надзвычай актуальная для сённяшняй Беларусі, бо менавіта з-за адсутнасці грамадзянскай супольнасці і надзвычай слабай нацыянальна-культурнай самасвядомасці беларусы апынуліся ў тым маральна-духоўным і эканамічным крызісе, за якім надыходзіць эканамічны калапс, распад дзяржаўнасці і заняпад нацыі.

У шэрагу дакладаў быў прааналізаваны гістарычны аспект праблемы самаідэнтыфікацыі беларусаў, ад узнікнення самых ранніх форм нацыянальнай дзяржаўнасці да XX стагоддзя. Было адзначана, што ў складўшыхся гістарычных і геапалітычных варунках полінканфесійнасць і поліэтнічнасць беларускага грамадства стала перашкодай на шляху фармавання нацыі на моўна-культурнай і канфесійнай аснове, таму зараз чыннікам фармавання нацыянальнай свядомасці павінен стаць дзяржаўна-палітычны. Паколькі ў канцы XX ст. дэ-факта існуе Рэспубліка Беларусь, то зараз галоўнай задачай палітычных партый, грамадскіх і культурных арганізацый, прэсы з'яўляецца фармаванне ў масавай свядомасці насельніцтва прываблівага вобразу незалежнай дзяржавы і яе перавагі над іншымі формамі дзяржаўнага ўладкавання.

Гэтая ідэя, на думку ўдзельнікаў семінара, здолее аб'яднаць самыя розныя пласты грамадства розных палітычных, моўна-культурных і канфесійных арыентацый. На аснове дзяржаўна-палітычнай еднасці паўсталі, напрыклад, французская і нямецкая нацыі ў адрозненне ад краін рэгіёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія паўставалі на аснове моўна-культурнай і канфесійнай еднасці іх народаў.

Цікавае пытанне падняў у сваім дакладзе журналіст Юрый Дракахруст — гэта патрэба яднання ў пабудове беларускай дзяржавы нацыянальна-дэмакратычнага і ліберальнага крыла апазіцыі і тыя ўзаемныя саступкі, якія бакі павінны зрабіць адзін аднаму. Так, на думку сп.Дракахруста, нацыяналісты, у прыватнасці, павінны заняць больш памяркоўную пазіцыю ў пытанні адраджэння і распаўсюджвання ў грамадстве беларускай мовы. На пытанне ўдзельнікаў семінара, ці не могуць у сваю чаргу лібералы паступіцца гэтай пазіцыяй, Дракахруст адказаў, што гэта было б вельмі вялікай саступкай. Такім чынам, працэс яднання дэмакратычных сіл і выпрацоўкі новай нацыянальнай ідэалогіі не абяцае быць лёгкім. Гэта і высветлілася пад час дыскусіі «круглага стала» па праблемах фармавання сучаснай інтэграцыйнай ідэалогіі, погляды ўдзельнікаў якога часам былі палярнымі. Але сам семінар заклаў добры падмурак для падобных сустрэч на будучыню.

Удзельнікі семінара прынялі зварот да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Васіля Капітана з нагоды затрымання 30 траўня міліцыяй і асуджэння на 10 сутак арышту выканаўчага дырэктара цэнтра «Беларуская перспектыва» сп. Віктара Івашкевіча і збіцця АМАПам старшыні фонду "Дзецям Чарнобыля" прафесара Генадзя Грушавога, якія павінны былі выступіць на семінары.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## У газетах

### Генрых Далідовіч застаецца настаўнікам...

«Здаецца, усяго якіх дваццаць з нечым гадоў таму чытаў яго першы зборнік апавяданняў "Дажджы над вёскай", а колькі ўжо ўвабраў гэты час новых кніг, створаных таленавітым празаікам!..

Тая згаданая першая кніжка адкрываецца трыпціхам «Настаўнік». У гэтым ёсць нешта сімвалічнае. Настаўнік-філолаг па адукацыі, Генрых Далідовіч застаўся настаўнікам назаўсёды. Яго педагагічная біяграфія не замыкаецца на гадах, праведзеных у школьным калектыве. Ён і сёння вучыць. Пасада галоўнага рэдактара галоўнага маладзёжнага часопіса краіны «Маладосць» — гэта таксама гады настаўніцтва. Колькі маладых талентаў прайшло праз яго клапатлівыя рукі і шчодрае сэрца, колькім з іх ён аказаў шчырую падтрымку і дапамогу ў пісьменніцкім станаўленні, колькі вывеў на шырокі прасцяг літаратурнага жыцця?..»

*(«Газета», № 1, травень-чэрвень 1996 г.)*

### Мікалай Яроменка-старэйшы не толькі артыст...

«Свабода друку гарантуе свабоду народа». Такі быў лозунг фестывалю «Залатое пяро-96», які падвёў вынікі дзейнасці беларускіх журналістаў за мінулы год. Лозунг, дарэчы, смелы, але не падмацаваны рэальнасцю. І як вынік — галаслоўны...

Прэмія Канфедэрацыі журналісцкіх саюзаў імя Дзмітрыя Холадава «За мужнасць і прафесіяналізм» была ўручана старшыні Канфедэрацыі творчых саюзаў Беларусі, актору Мікалаю Яроменку-старэйшаму.

Нельга выключыць, што Мікалай Мікалаевіч сапраўды знаходзіцца ў Саюзе журналістаў — хто толькі ў ім ні знаходзіцца! Нельга выключыць, што Мікалай Мікалаевіч сапраўды праяўляў асабістую мужнасць, высока несучы сцяг палымянага публіцыста. Але ўсяму ёсць мяжа. Нават цынізму. Прэмія, што носіць імя журналіста, які загінуў пад час выканання прафесійных абавязкаў, журналіста, выкрываўшага ўсё сваё нядоўгае жыццё непрыстойныя дзеянні ўладаў, уручаецца чалавеку, каторы ўсё сваё жыццё публічна гэту ўладу (ва ўсіх яе ўвасабленнях ды персонах) усхваляў-апяваў. Лепшай прычыны абразіць імя Холадава прыдумаць нельга. Лепшага метаду пераканаць ва ўласным маразме арганізатары фестывалю не знайшлі...

Золата, мусіць, на ўсіх у нашай Беларусі хопіць. Толькі адмыцца ад гэткага золата потым, ой, як няпроста!»

*(«Имя», № 17, 1996)*

### Мова адстаўнога ...алкоўніка Ляшковіча

«...І тое, што амаль за сорак гадоў расстання з Радзімай, з Маладзечаншчынай, не забыў Станіслаў Ляшковіч матчыну мову, думае і размаўляе па-беларуску, прымушае паважаць яго яшчэ болей.

— Родная мова для мяне — гэта карані. Пэўны час я быў пазбаўлены магчымасці карыстацца ёю. А як вярнуўся ў Беларусь, то і размаўляць пачаў так, як бацька гаварыў, як маці кажа. Тое, што беларуская мова становіцца нібы замежнай, мяне вельмі трывожыць. Згадваю дзяцінства: колькі крыніц прабівалася з-пад зямлі, вада ў іх была чыстая-чыстая, смачная-смачная. Не стала іх — адразу збяднела прырода, страціла боскую прыгажосць. А тут пад пагрозай мова цэлай нацыі — самабытнай, непаўторнай, таленавітай. Цяпер вось над краінай навісла небяспека далейшага існавання. Дапусцім падобнае нешта — самі знікнем як народ, як нацыя...»

*(«Рэгіянальная газета», № 47, 1996)*

### Архіепіскап Юрый гаворыць па-беларуску выдатна

«Нядаўна г.Ліду, дзе маецца праваслаўная парафія святога вялікапакутніка і цаліцеля Панцеляймона, дзе адбылося вялікае царкоўнае свята, наведала дэлегацыя Сусветнай беларускай патрыярхіі на чале з архіепіскапам Юрыем з ЗША.

Нягледзячы на тое, што быў панядзелак, а абвестка пра прыезд была зроблена толькі ў нядзелю, народу сабралася столькі, што добрая палова не змясцілася ў царкве. Нагадаем, што парафія св. Панцеляймона выйшла з-пад юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярха і ўсталявала духоўнае супрацоўніцтва з беларускімі цэрквамі за мяжой.

Увесь візіт быў прасякнуты духам беларускасці: і цудоўнае вітанне дзетак, і пранікнёны тэкст архіпастарскага пасланія, і казанне архіепіскапа Юрыя стварылі тую атмасферу, калі словы «Жыве, Беларусь» не рвуцца з вуснаў, а пранікаюць у самыя сэрцы.

І цяпер у крамах і на кірмашах Ліды і яе ваколіцах чуваць адно: «На якой прыгожай мове прамаўляў архіепіскап! Зусім не так, як зараз у школах навучаюць».

Архіепіскап Юры мае 74 гады. Ён ад'ехаў з Беларусі яшчэ пры Польшчы і вывез з сабою мову Янкі Купалы без бальшавіцкіх правак. Але не гэта галоўнае. Галоўнае, што мова стала прадметам абмеркавання ў рэлігійным асяроддзі, ... што незалежная Беларуская Праваслаўная Царква паўстае на яе абарону, а разам і на абарону Беларусі.

Значэнне візіту архіепіскапа Юрыя пераацаніць немагчыма. Лідская парафія, на якую вядзецца шалёная атака з усіх бакоў, атрымала магутную духоўную падтрымку.

Калі раней мы паведамлялі пра адзін аналагічны прыход пад Менскам, то ў Ліду разам з архіепіскапам Юрыем прыязджалі ўжо тры святары незалежных прыходаў на Беларусі. На павестцы дня рукапалажэнне незалежнага беларускага епіскапа на Беларусі...»

*(«Пагоня», № 22, 1996)*

**Прачытаў А.М.**

# Даты і падзеі ў чэрвені

**20** — 430 гадоў з дня нараджэння Жыгімонта III Вазы (1566—1632), вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы.

**21** — 255 гадоў таму нарадзіўся Жак Эмануэль Жылібэр, французскі натураліст, доктар медыцыны, які загадваў (1775—1781 гг.) Медыцынскай акадэміяй у Гародні, удзельнічаў у заснаванні там Батанічнага сада.
— 180 гадоў з дня нараджэння Шарлоты Бронтэ, англійскай пісьменніцы («Джэйн Эйр»).
— 100 гадоў з дня нараджэння Л.Н.Аранштама, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.
— 35 гадоў таму ў Бярозе заснаваны гісторыка-краязнаўчы музей.

**22** — 290 гадоў таму ў Магілёў прыбыў цар Пётр «яго мосьць байдаком» (рачным суднам з пляскатым днішчам). Яго сустракаў магістрат з «пірагом вялікім» («за каторы заплацілі пекару злотых шаснаццаць») і «хлебам сітным вялікім».
— 220 гадоў таму (за некалькі дзён да агалошання незалежнасці ЗША) была абвешчаная «Дэкларацыя правоў Віргініі», якая гарантавала роўныя правы ўсім людзям, свабоду «практыкавання рэлігіі паводле свайго сумлення», заклікала да хрысціянскага паразумення, любові і міласэрнасці.
— 130 гадоў таму адбыліся карэнныя рэформы ў Канстытуцыях Нарвегіі (скасавана шляхецтва) і Швецыі (ураўняныя правы ўсіх саслоўяў).
— 55 гадоў таму фашысцкая Германія напала на СССР.

**23** — 160 гадоў таму Францішак Савіч утварыў у Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі нелегальнае студэнцкае «Дэмакратычнае таварыства».
— 55 гадоў таму самалёты фашысцкай Германіі бамбілі Менск.
— Дзень моладзі.

**24** — Гэты дзень лічыцца днём нараджэння Яна Хрысціцеля.
— 445 гадоў таму ў віленскай капліцы Святога Казіміра пахавана Барбара Радзівілішка, вялікая княгіня ВКЛ і каралева Польшчы. Так было выканана апошняе пажаданне нябожчыцы — месцам свайго спачыну яна абрала любімую Вільню.
— 90 гадоў з дня нараджэння М.І.Краўцова, расійскага літаратуразнаўца і фалькларыста, даследніка вусна-паэтычнай творчасці беларусаў.

**25** — 90 гадоў таму было забаронена менскае «Таварыства аматараў прыгожага мастацтва», заснаванае ў 1890 годзе.
— 85 гадоў таму ў Менску адбылося выступленне гурта Ігната Буйніцкага.

**26** — 70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Паўленкі, беларускага мовазнаўца, доктара філалагічных навук.

**27** — 60 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Кузьмянкова, журналіста і пісьменніка.

**Падрыхтаваў З.С.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





Рупліўцы

# З цемры да святла



***Вядомых мне дзеячаў беларускага нацыянальнага Адраджэння аб'ядноўвае ў нечым падобны лёс: многія з іх калісьці былі індыферэнтнымі да нацыянальнага пытання савецкімі «інтэрнацыяналістамі» і «марксістамі», а нацыянальна свядомымі станавіліся пазней і вярталіся да народных каранёў і роднай мовы, пераадольваючы сваё камуністычнае выхаванне і супраціўленне асяроддзя, ідучы, так бы мовіць, у адваротным напрамку. Прабіваліся з цемры да святла самыя разумныя і мужныя людзі. Іх праціўнікамі станавіліся былыя калегі па вучобе і службе, землякі, партнаменклатуршчыкі (не кажучы ўжо пра органы КДБ) — усе тыя, хто спавядаў нацыянальны нігілізм, а сёння трызніць «светлым мінулым» і штурхае народ то ў «рублёвую зону», то на аб'яднанне сваёй дзяржаўнай гаспадаркі з суседскаю.***

***Выхаду абаронцаў беларушчыны на грамадска-палітычную арэну паспрыяў подых тых вялікіх перамен, якая прынесла з сабой перабудова. Іх зорная пара — канец 80 — пачатак 90 гадоў. Сілкуючыся ад розных беларускіх партый, арганізацый і рухаў, нацыянальныя адраджэнцы патрацілі гады кароткага рэнесансу на паратунак сваёй нацыі, якая гіне ад асіміляцыі, і на выпрацоўку праграмы пабудовы дэмакратычнай, суверэннай, прававой беларускай дзяржавы (у галіне эканомікі, палітыкі, культуры, права і інш.). Аднак хутка выявілася, што іх практычны і тэарэтычны досвед не будзе скарыстаны, бо не такую дзяржаву намерваецца будаваць «Богам дадзеная» ўлада і не з тымі людзьмі, аб чым засведчыў яшчэ мінулагодні рэферэндум — жудасны па сваёй амаральнасці акт выкідвання на сметнік духоўных скарбаў і святынь народа. Працэс, як кажуць, пайшоў. Чым далей, тым больш раздзьмухвалася полымя нянавісці да «нацыяналістаў» і ўсяго беларускага на Беларусі. Пачалося паўсюднае «закручванне гаек» у сферы правоў чалавека, татальнае знішчэнне парасткаў беларушчыны ў сферы адукацыі і культуры, ахайванне дэмакратаў і нацыянальнай інтэлігенцыі, уціск сродкаў масавай інфармацыі. Адбыліся і іншыя злачынствы, на якія здольны таталітарны рэжым. Сённяшні дзень нічога лепшага за спецназаўскую дубінку, маральны тэрор і палітычныя рэпрэсіі беларускаму Адраджэнню не абяцае. У такой сітуацыі самы час агледзецца і падумаць аб зберажэнні і асэнсаванні яго набыткаў. Грамадзянскі подзвіг на карысць Бацькаўшчыны павінен захавацца ў гістарычнай памяці народа і стаць неўміручым прыкладам для нашчадкаў.***

*Нашага суразмоўцу Леаніда Міхайлавіча Лыча прадстаўляць чытачам няма патрэбы, паколькі ён аўтар шматлікіх артыкулаў і некалькіх кніг, прысвечаных набалелым нацыянальным праблемам, у тым ліку і пытанню дыскрымінацыі беларускай мовы з боку дзяржавы. Асабліва важнае значэнне для выхавання нацыянальнай самасвядомасці мае яго кніга «Беларуская нацыя і мова» (Мн., 1994), якая дапамагае, як сказана ў прадмове, пераадолець небяспечную хваробу абыякавасці да гістарычных каранёў і духоўных традыцый папярэдніх пакаленняў, паколькі прычынай страшэннага нацыянальнага нігілізму многіх беларусаў часта з'яўляецца поўнае неразуменне імі ролі роднай культуры і мовы для выжывання этнасу. У адным з заключных радкоў гэтай кнігі робіцца высноваа: «Пры правільнай нацыянальнай палітыцы з боку ўрада Беларусі не ўяўлялася б асаблівых цяжкасцей скіраваць беларускі народ на шлях кансалідацыі і згоды, умацавання яго этнічнага адзінства, што так неабходна і актуальна было б, паколькі перад вайной тут ужо ўзніклі сур'ёзныя дэфармацыі, пачала набіраць небяспечныя абароты культурна-моўная асіміляцыя карэннага насельніцтва краю».*

**— Леанід Міхайлавіч, мне вядома, што Вы паходзіце з вёскі. Ці не гэта акалічнасць паўплывала на Ваш жыццёвы выбар? Усё ж вясковы чалавек стаіць бліжэй да традыцыйнай культуры, гісторыі і мовы народа.**

— Напачатку жыцця я не планаваў, кім мне быць. У шаснаццаць гадоў паступіў вучыцца ў Менскі статыстычны тэхнікум зусім выпадкова, не маючы ўяўлення аб будучай спецыяльнасці, бо, працуючы на калгасных палетках, спазніўся падаць дакументы ў іншую, больш прэстыжную і цікавую для сябе навучальную ўстанову. А што мяне найбольш здзівіла ў гэтым тэхнікуме, дык гэта тое, што беларуская мова, з якой я прыехаў, аказалася тут непатрэбнай. Праўда, навучэнцы, якія сюды паступалі яшчэ да вайны, часта задавалі выкладчыкам такое пытанне: «А чаму вы нас цяпер не вучыце на беларускай мове?» Рэакцыя была такая: настаўніца рускай мовы — былой выпускніца ВНУ ў Расіі, было прапанавана правесці ў групах гутарку аб той вялікай ролі, якую адыгрывае руская мова ў жыцці нашай дзяржавы СССР. Цэлую гадзіну яна з намі гутарыла, а ў канцы сказала: «А што да вашай мовы, то яна штучная, бо сваю лексіку запазычыла з рускай, польскай і украінскай моў. І таму няма патрэбы яе ведаць, размаўляць на ёй, а тым больш на ёй вучыцца ў нашым тэхнікуме». Я як вясковы хлопчык цалкам даверыўся гэтай інфармацыі, але з болем падумаў: "Як гэта так, каб у майго народа ды не было ўласнай мовы!»

**— І тым не менш заняліся самарусіфікацыяй?**

— Угадалі. Я паверыў гэтай настаўніцы і ўжо на другім курсе бойка гаварыў пару́ску і не саромеўся трапіць у любую кампанію. Толькі да канца свайго рускамоўнага жыцця так і не навучыўся вымаўляць мякка зычныя «р», «ж», «ч», «ш», зацвярдзелыя ў беларускай мове.

**— Статыстыкам Вы не сталі...**

— Пасля тэхнікума я паступіў у афіцэрскае вучылішча і нейкі час праслужыў у арміі. З 1950 па канец лета 1958 года жыў у Туркменіі, Сібіры, Башкірыі. Там убачыў, як мясцовае насельніцтва, не ў прыклад беларусам, стаіць за сваю мову, а ўлады клапоцяцца аб падрыхтоўцы нацыянальных кадраў.

**— Як Вы, беларус, пачувалі сябе ў арміі?**

— Я настолькі звыкся з думкай, што мой народ не ўяўляе сабой самабытную, адрозную ад рускай нацыю, што імкнуўся ва ўсім быць падобным да тыповага рускага афіцэра.

**— А як Вы пачувалі сябе сярод башкіраў, калі ўжо былі ў больш сталым узросце?**

— Вельмі добра. Я вучыўся завочна на гістарычным аддзяленні Башкірскага дзяржаўнага педінстытута (г.Уфа) і працаваў у сельскагаспадарчым тэхнікуме выкладчыкам ваеннай справы і гісторыі СССР. Наш педагагічны калектыў на 60 працэнтаў складаўся з карэнных жыхароў краю і на 40 працэнтаў з рускіх. Я ж быў адзіным беларусам. У асяроддзі башкіраў і татараў таксама лічыўся сваім чалавекам, — перакідваўся нават з імі іхнімі слоўцамі. Аднойчы яны ў мяне папыталі: «Леанід Міхайлавіч, а ці ведаеце Вы сваю родную мову?» Я адказаў, што не ведаю. «А ці патрыятычна гэта?» — звярнуліся з другім пытаннем. Я тлумачыў, што руская мова мае міжнароднае, інтэрнацыянальнае значэнне, дае выхад у сусветную навуку і культуру, таму я ёю і карыстаюся не толькі з вамі, але і са сваімі роднымі ў перапісцы. Адчуваў, што яны са мною не пагаджаюцца. Трохі пазней і сам зразумеў, якой пустэчы я іх вучыў. Дзесьці ў пяцьдзесят шостым годзе ў тэхнікуме адбылося «ЧП», якое на мяне моцна паўплывала. Рускія па нацыянальнасці выкладчыкі напісалі ў абкам партыі данос на сваіх мясцовых калег, абвінавачваючы іх у такім «злачынстве»: маўляў, у настаўніцкай яны размаўляюць паміж сабой не на рускай мове, а на сваёй роднай. З абкама прыехаў прадстаўнік, башкір па нацыянальнасці. Да мяне ён паставіўся зычліва, падкрэсліўшы, што толькі беларус не падпісаў пісьмо, але ўсё ж «у імя прагрэсу і росквіту савецкай культуры, зблізжэння і зліцця нацый» усяляк схіляў сваіх суплямённікаў размаўляць у настаўніцкай па-руску. Пасля гэтага здарэння мае адносіны з мясцовымі выкладчыкамі сталі яшчэ лепшымі.

**— І ўсё ж Вы не захацелі з імі застацца?**

— Ведаеце, пад трыццаць гадоў на мяне найшло нейкае прасвятленне, што жыць трэба толькі на сваёй радзіме. На жаль, я вярнуўся дамоў выключна рускамоўным чалавекам. Часова пасяліўся ў Менску, у гасцініцы. Афіцыйна Міністэрства асветы рэспублікі ў дапамозе мне адмовіла, спаслаўшыся на перавытворчасць настаўнікаў, і я сам зусім выпадкова знайшоў работу ў беларускай школе-інтэрнаце, што знаходзілася на Юбілейнай плошчы г.Менска. Школа гэта мела выдатных кіраўнікоў, якія добра дбалі аб прэстыжы роднай мовы. Я быў прыняты на работу з умовай, што на працягу жніўня падрыхтуюся да выкладання сваіх прадметаў на беларускай мове. Я адразу ж выехаў у роднае мястэчка Магільнае, што на Уздзеншчыне, і цэлы месяц чытаў Купалу, Коласа ды Чорнага, захапляючыся прыроднай сакавітасцю іх мовы, слухаў, як гавораць людзі. А з 1 верасня перайшоў ужо на рабочую для мяне беларускую мову. Школа гэта стала першым, праўда, яшчэ мала ўсвядомленым крокам у маім вяртанні да беларушчыны.

**— Што Вас прымусіла пайсці ў навуку?**

— Неадольнае жаданне пазнаваць нязведанае. Я развітаўся з работай школьнага выкладчыка ў 34 гады і без вагання перайшоў у Інстытут гісторыі, заняўшы вакантнае месца старшага лабаранта. Адзначу, што ў той час гэта ўстанова была выключна рускамоўнай. Але вось з'явіліся маладыя аспіранты Васіль Тоўсты, Міхась Біч і Міхась Чарняўскі, якія між сабою размаўлялі толькі па-беларуску. Я з асаладай слухаў іх гаворку і па-добраму ім зайздросціў, што вось так як яны гаварыць яшчэ не магу. Паўплывалі на мяне і знаёмствы з супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, якія ў большасці размаўлялі са мной па-беларуску. Памятаю, як аднойчы я сустрэўся з прафесарам Грынблатам, і мы з ім пагаварылі на дзвюх мовах: ён са мной — на беларускай, я з ім — на рускай, бо родная як след не валодаў. Праз некалькі мінут нашай гаворкі я, абліваючыся потам, сказаў сам сабе: «Не, так больш гэта працягвацца не можа!» І пачаў трэніравацца ў беларускай гаворцы — на першым часе ў інстытуцкім калідоры. У 1964 г. у друку з'явілася мае першыя публікацыі па тэме дысертацыі. Аднойчы я зрабіў пераклад свайго артыкула на беларускую мову і занёс яго ў рэдакцыю. Мне яго вярнулі густа выпраўленым чырвоным алоўкам. Гэта мяне так узрушыла і прысароміла, што я на паўгода прыпыніў работу над дысертацыяй: пастанавіў перад усім вывучыць беларускую літаратурную мову. І вывучыў, і даў сабе слова, што з усімі і паўсюль на Беларусі — пакуль цягнік, у якім еду, не перасячэ дзяржаўную мяжу, гаварыць буду толькі на роднай мове, а на рускай мове толькі ў выпадку, калі мой суразмоўнік мне скажа: «Я Вас не разумею». Многія ў інстытуце спрабавалі адвесці мяне, як тады лічылася, ад бездані. "Лёня, — казалі яны мне, — што ты робіш? Не гуляй у беларускую мову, ці мала што можа быць у наш няпэўны час». Але для мяне пераход на родную мову стаў канчаткова вырашаным пытаннем. У гэтым я бачыў свой «сімвал веры», сваё жыццёвае крэда.

**— На якую тэму Вы абаранілі кандыдацкую дысертацыю?**

— Тэму мне прапанаваў інстытут, і яна была звязана з гісторыяй рабочага класа: «Чыгуначнікі Беларусі ў гады семігодкі 1959—1965 гг.». Абараніўшыся ў чэрвені 1966 г., я стаў спецыялістам № 1 па гісторыі чыгуначнага транспарту. Таму і для доктарскай дысертацыі я вырашыў выбраць гэтую тэму — толькі ўжо пісаць на беларускай мове. Я хацеў паказаць, што на нашай мове можна ствараць даследаванні па вытворчых, эканамічных і тэхналагічных праблемах. Кнігу я напісаў, але абараніцца па ёй не змог. Так званы ВАК (Вышэйшая атэстацыйная камісія) пры Савеце Міністраў СССР прымаў дысертацыі на зацвярджэнне толькі на рускай мове, а перакладаць самога сябе я не захацеў — гэта не адпавядала маім прынцыпам. Таму давялося пісаць яшчэ адну доктарскую дысертацыю, ужо на рускай мове, на тэму: «Ликвидация социально-экономического и культурного неравенства союзных республик на примере БССР (1917 — июнь 1941)». Кніга была падрыхтавана да абароны ў 1987 г., аднак паколькі я быў ужо сфарміраваным прадстаўніком нацыянальна свядомай гістарычнай інтэлігенцыі, то пісаць, улічваючы ідэалагічныя патрабаванні наменклатуры, ужо не мог, таму і трапіў пад абстрэл гэтай катэгорыі работнікаў. Думаю, што калі б гарбачоўская перабудова не паглыблялася і не працягвалася нацыяналізацыя дэмакратычных працэсаў, то наўрад ці я змог бы апублікаваць гэту кнігу ў 1987 годзе і абараніцца па ёй. Доктарам гістарычных навук стаў у 1988 г.

**— А які лёс Вашай беларускамоўнай кнігі?**

— Кніга «Аднаўленне і развіццё чыгуначнага транспарту ў Беларусі (верасень 1943—1970 гг.)» была выдадзена не без дапамогі Дзяржаўнага камітэта па друку ў семдзесят шостым годзе. Знайшліся ў камітэце нацыянальна свядомыя людзі, якія паспрыялі яе выхаду ў свет. Гэта праца дала мне імя ў гістарычнай навуцы, стала вяхой у маёй кар'еры нацыянальнага беларуса.

**— Калі пачаўся Ваш удзел у нацыянальна-культурным адраджэнні?**

— У мяне былі перыяды пасіўнага і актыўнага ўдзелу ў адраджэнні. Першы перыяд пачаўся з таго, што я стаў вывучаць беларускую мову і пісаць па-беларуску, адначасна агітуючы — дзе толькі мог — у разнамоўнае рабіць так і іншым. Другі перыяд датуецца пачаткам васьмідзесятых гадоў, калі, працуючы над праблемай эканамічнага і сацыяльна-культурнага развіцця саюзных рэспублік на прыкладзе БССР, я зразумеў, што магу са сваімі ведамі ўжо выйсці на саюзную арэну. Мы часта недаацэньваем ролю навуковай інтэлігенцыі, якая, ой, як моцна і магутна супрацьўлялася працэсу культурна-моўнай асіміляцыі, што быў запушчаны з Крамля. Вучоныя рабілі многае. Іншая справа, што зробленае імі прасейвалася праз густое сіта і амаль не даходзіла да шараговых грамадзян. Я ўсё больш прыслухоўваўся да тых вучоных, якія, не баючыся рэпрэсій, крытыкавалі нацыянальную палітыку КПСС. У іх была смеласць рабіць гэта ў апошнія гады жыцця Л.Брэжнева, пры Ю.Андропаве і пазней, што дадавала і мне рашучасці. У 1983 г. я паехаў на сваю першую саюзную канферэнцыю ў Баку, падрыхтаваўшы прыгладжаны тэкст, які без усялякіх заўваг быў завізіраваны дырэкцыяй нашага інстытута. А ў Баку, паслухаўшы на першым пленарным пасяджэнні, як вучоныя нацыянальных рэспублік адстойваюць свае краіны ад асіміляцыі, ваююць за тое, каб застацца самабытнымі народамі, я за адну ноч зрабіў, а затым прачытаў зусім іншы даклад. І калі я закончыў выступленне, то былі агульныя апладысменты. Толькі адзін навуковец з Масквы мне запярэчыў, заявіўшы, што дэнацыяналізацыя беларусаў адбываецца па ініцыятыве самога народа. Так менавіта вытлумачыў яму гэты працэс беларускі міністр культуры Мінкевіч. Тады я спытаў у свайго апанента: «А вам Мінкевіч не растлумачыў, чаму ў нашых гарадах народ стаіць за тое, каб агульнаадукацыйныя школы працавалі на рускай мове? У нас жа няма ніводнай спецыяльнай і вышэйшай навучальнай установы, якая б працавала на беларускай мове. Дык які ж бацька пагодзіцца, каб яго дзіця не магло з беларускай школы паступіць у гэтую ўстанову, а паступіўшы, каб яму было цяжка вучыцца па-руску?»

Зноў пасыпаліся апладысменты, зноў мяне падтрымалі. Дарэчы, мой даклад з прыходам да ўлады М.Гарбачова без усялякай перапрацоўкі быў надрукаваны ў матэрыялах Бакінскай канферэнцыі.

**— Да якіх партый, грамадскіх рухаў Вы належыце?**

— Камуністам ніколі не быў. Беспартыйны і зараз. Супрацоўнічаю з культурна-асветніцкімі суполкамі: Таварыствам беларускай мовы, «Бацькаўшчынай» і «Спадчынай».

**— Хацелася б звярнуць увагу чытачоў на Вашы творчыя набыткі ў галіне літаратурнай крытыкі і мовазнаўства. Як вядома, Вы адышлі ад праблематыкі чыгуначнага транспарту і сацыялістычнага спаборніцтва рабочага класа, здаецца, яшчэ да напісання такой кнігі, як «Беларуская нацыя і мова».**

— Перад тым, як напісаць гэту кнігу, я шмат прачытаў тэарэтычных прац філосафаў, мовазнаўцаў, сацыёлагаў і культуролагаў па дадзенай праблеме і, безумоўна, мне дапамагла доктарская дысертацыя, тэма якой была звязана з сацыяльна-культурным аспектам. У аснову кнігі пакладзены ў асноўным артыкулы, прысвечаныя беларускай мове і надрукаваныя ў ЛіМе і «Народнай газеце». Вядома, перапрацаваныя. Яны леглі ў храналагічным парадку, сталі раздзеламі і высвечваюць адну праблему.

*(Заканчэнне на с. 7.)*

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



***Год Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі***

# Тастаманты

Пасля вызвалення з царскай няволі Андрэй Тадэвуш Касцюшка падаўся ў ЗША і прыплыў туды 18 жніўня 1797 года. Кангрэс даў яму ва ўласнасць 500 акраў зямлі ў штаце Агаё. Было таксама загадана, каб былому змагару за незалежнасць ЗША сплацілі належныя яму за гады адсутнасці грошы разам з працэнтамі — агулам 21859 долараў і 36 цэнтаў.

Пад час гэтага другога побыту ў ЗША Касцюшка сустракаўся з сваімі паплечнікамі, сябрамі. Вось што пісаў Томас Джэферсан генералу Гарацыю Гатэсу, у падначаленні якога калісьці ваяваў наш зямляк: «Касцюшку бачу часта. Ён сярод нас — найчысцейшы сын свабоды, той свабоды, якая атуляе ўсіх, а не толькі багатых». Але беларускі шляхціч бачыў і жорсткі лёс рабоў-неграў. І ён вырашыў хоць неяк дапамагчы ім. Сяброўства і пашана да яго, як аўтара Дэкларацыі незалежнасці ЗША, вызначылі выбар: Касцюшка даручыў яму выкананне свайго тастаманту.

«Я, Тадэвуш Касцюшка, перад ад'ездам маім з Амерыкі гэтым сведчу і абвяшчаю, што — наколькі ў будучым не вырашу іначай пра свае ўладанні ў Злучаных Штатах — упаўнаважваю свайго сябра Томаса Джэферсана, каб выкарыстаў усе мае ўладанні дзеля выкупу неграў, яго ўласных ці таксама абы-чыіх уласных іншых. Каб надаў ім волю ад майго імя, каб забяспечыў ім навучанне рамёствам, або іншым навукам, каб даверыў навучаць у новых умовах маральным абавязкам, якія ўчынілі б з іх добрых суседзяў, добрых мужоў і добрых жонак, абаронцаў сваёй свабоды, сваёй айчыны і добрага грамадскага ладу і ўсяго, што прынесла б ім шчасце і карысць. Томаса Джэферсана ўчыняю выканаўцам гэтага тастаманту».

Пра маральны абавязак выканання Касцюшкавага тастаманту будучы прэзідэнт ЗША пісаў у ліпені 1818 года (ужо пасля смерці кіраўніка вызвольнага паўстання): *«Ці ж магу спыніць намаганні, якія ў маёй моцы, каб ушанаваць памяць генерала Касцюшкі, чыннага абаронцы майго краю пад час яго барацьбы за свабоду, а ад 1797 года — калі адбылося наша знаёмства — майго найблізшага і найбольш любімага сябра. Калі ў 1798 годзе пакідаў ён Злучаныя Штаты, пакінуў мне тастамант, у якім наказваецца, што пасля ягонай смерці ўладанні, якія меў у нашым краі, а таксама належную яму плату за вайсковую службу прызначыць трэба на адукацыю і вызваленне такой колькасці нявольнікаў у нашым краі, колькі будзе магчыма».* (Як ужо паведамлялася, тастамант быў выкананы ў 1826 годзе.)

Наш суайчыннік на 65 гадоў апярэдзіў рашэнне прэзідэнта Лінкальна скасаваць рабства.

Дарэчы, гэты тастамант не быў адзіным. У 1957 годзе ў Дзяржаўным архіве Беларусі знайшлі тастамант Касцюшкі, якім уладар Сяхновічаў вызваляў прыгонных сялянаў свайго родавага маёнтка. Незадоўга да смерці Касцюшка агалошваў: *«Вызваляю ад паншчыны маіх бедных сялянаў і іх нашчадкаў у маім маёнтку Сяхновічы, што ў Берасцейскім ваяводстве. Аб'яўляю ўсім жыхарам гэтага маёнтка, што з гэтай пары з'яўляюцца вольнымі людзьмі і сапраўднымі гаспадарамі сваёй уласнасці. Вызваляю іх ад усіх належных чыншаў, падаткаў і асабістай службы».*

Але, як вынікала з іншых дакументаў, што знаходзіліся ў архіве, гэты тастамант не быў выкананы: супраць былі царскія ўлады.

**Падрыхтаваў З.С.**

# Расія: лёс карэнных народаў

Кузнецкі вугальны басейн, ці, як яго называюць у Расіі, Кузбас, вядомы сваёй развітай у XX стагоддзі цяжкай прамысловасцю. Але мала хто ведае, што назву і гораду Кузнецк, і ўсяму краю дала не тэхнічная рэвалюцыя ці параўнальна нядаўна засяліўшыя яго расійцы. Першымі кавалямі ў гэтым рэгіёне былі яго карэнныя жыхары — шорцы і целеуты, якія пачалі плавіць руду каля IX стагоддзя н.э.

Як жывуць яны сёння? Радовішчы вугалю і руды, якімі багатая іхняя зямля, сталі прычынаю бедаў гэтых народаў. Найперш у іх адабралі менавіта зямлю. Горная Шорыя — калісьці куток некранутай прыроды — сёння паступова ператвараецца ў пустыню, бо дзеля здабычы вугалю адкрытым спосабам з зямлі цалкам здымаецца верхні ўрадлівы слой. Прыроду ў не кранутых прамысловасцю мясцінах губяць шкодныя выкіды ў паветра з кар'ераў і плавільных заводаў. І шорцы змушаныя пакідаць сваю зямлю.

Не менш праблем маюць і целеуты, якія кампактна жывуць у пяці сельшчах Бялоўскага раёна Кемераўскай вобласці. Вакол гэтых вёсак знаходзяцца буйныя вугальныя радовішчы. Працяг іх распрацоўкі вядзе да таго, што целеуты губляюць сваю зямлю літаральна штодня. Таму сёння ўсе яны месцяцца на плошчы 15000 квадратных метраў, якая працягвае скарачацца.

Што іх чакае? Існуе праект перасялення целеутаў у іншыя мясціны, але гэта азначала б распыленне апошніх дзвюх з паловаю тысячаў прадстаўнікоў гэтага народа. Аднак ён і без таго блізкі да вынішчэння, бо жыве на тэрыторыі, забруджанай прамысловымі выкідамі. Таму смяротнасць у асяроддзі апошніх целеутаў перавышае нараджальнасць. Толькі ў красавіку гэтага года 12 з іх памерла ад хваробаў сэрца ды сасудаў і трое — ад рака.

Але самым страшным лідэры целеутаў лічаць не вымiранне свайго народа, а яго асіміляцыю расійцамі. Маладое пакаленне целеутаў — нашчадкаў мільённых народаў гунаў і скіфаў ды іхняй культуры — сёння гаворыць выключна па-расійску. Целеуцкая ж стала мовай хатняга ўжытку старэйшага пакалення...

Лідэрамі Асацыяцыі карэнных малалікіх народаў Поўначы, Сібіры і Далёкага Усходу (Расія) была прынятая заява, у якой, між іншым, сказана: за апошнія сто гадоў у Расіі зніклі такія народы, як айны, воць, камасінцы, кіерэкі, амокі, тазы, югі. На мяжы фізічнага знікнення апынуліся не толькі целеуты, але і алеуты, кеты, якіх засталося 911 асобаў, нганасаны, нігідальцы, оракі (іх колькасць меней за 200). Тофалараў, якія жывуць у Іркуцкай вобласці, засталося 650. Блізкія да вымірання юкагіры.

Цяжкая эканамічная і палітычная сітуацыя ў Расіі дае падставы лідэрам гэтых народаў заяўляць: іхнія правы абмяжоўваюцца. Сярод дэпутатаў Дзяржаўнай думы Расіі толькі два іхнія прадстаўнікі. Гэта азначае, па сутнасці, адсутнасць прадстаўніцтва малалікіх народаў у вышэйшых уладных структурах Расіі. На думку іх прадстаўнікоў, не гарантуе іхніх правоў і 69-ты артыкул Канстытуцыі Расіі. Гэта дае магчымасць фірмам і прадпрыемствам — манапалістам у сферы здабычы карысных выкапняў — бесперашкодна дзейнічаць на этнічных тэрыторыях карэнных народаў Расіі, знішчаючы як навакольнае асяроддзе, так і іх саміх. Аб нейкай кампенсацыі за шкоду не ідзе нават размовы. Такім чынам, права на існаванне і жыццё пазбаўленыя цэлыя народы Расіі, за выключэннем, зразумела, саміх расійцаў. Бо дагэтуль у Расіі няма ніводнага закона, які б абараняў правы малалікіх карэнных народаў.

Праўда, у 1993 годзе Вярхоўны Савет такі закон прыняў, але ён не быў падпісаны прэзідэнтам. Двойчы гэты закон прымала Дзяржаўная дума Расіі, але ён, як і раней, не быў падпісаны Ельцыным.

Якое дачыненне праблемы карэнных народаў Расіі маюць да Беларусі? Самае непасрэднае. Што сталася з беларусамі Смаленшчыны і Бранщчыны — карэннымі жыхарамі гэтых рэгіёнаў, якія восемдзесят гадоў таму складалі значную частку насельніцтва гэтых тэрыторый? Што чакае беларускамоўных грамадзян Беларусі ў выпадку, калі яна, як жадае першая асоба краіны, стане часткаю іншай дзяржавы?

Сёлета ў траўні сталіца Вялікай Брытаніі стала месцам правядзення кангрэса прадстаўнікоў карэнных народаў свету, частка з прамоваў яго ўдзельнікаў стала асноваю гэтай публікацыі. Але ці не з'явяцца на наступным падобным кангрэсе прадстаўнікі яшчэ аднаго карэннага народа, асуджанага на знішчэнне, — беларускага?

***P.S.** А як жывуць сёння карэнныя народы Заходняй Еўропы? Валійцы і шкоты — карэнныя жыхары Вялікай Брытаніі — дамагліся таго, што на тэрыторыі іх пражывання, у Валіі (Уэльсе) ды Шкоцыі (Шатландыі), цяпер нават надпісы на дарожных знаках робяцца дзвюма мовамі — англійскай і мясцовай. А брэтонцы — кельцкі народ, які засяляе паўночны рэгіён Францыі Брэтонь, атрымалі права на атрыманне адукацыі на роднай мове яшчэ дваццаць гадоў таму. Мала таго, на сёлетнім фестывалі EUROVISION, гледачамі якога стануць трыста трыццаць мільёнаў жыхароў краін Заходняй Еўропы, Францыю будзе прадстаўляць песня, напісаная і выкананая менавіта па-брэтонску.*

**У.П.**

***У свеце***

# Прэзідэнт Францыі клапоціцца пра нацыю

Апошнім часам у Заходняй Еўропе становіцца ўсё больш крытыкаў бескантрольнай перагонкі інфармацыі па міжнароднай кампутарнай сетцы «Інтэрнэт», якую перад гэтым шмат хто заўзята хваліў. Аказалася, што такім чынам актыўна распаўсюджваецца не толькі карысная для выжывання чалавецтва інфармацыя, але тое, што яму пагражае. У 160 краін свету зламыснікі могуць бесперашкодна «закінуць» звесткі, якія зусім нядаўна патрабавалі рызыкоўных высілкаў кантрабандыстаў. Самыя брудныя эратычныя трызненні, інструкцыі, як самому змайстраваць таннае і надзейнае выбуховае ўстройства, як забіць чалавека ці прыгатаваць наркотык і многае іншае цяпер лёгка пераадолвае мытныя бар'еры і дзяржаўныя межы дзякуючы кампутарнай сетцы «Інтэрнэт». Захваляваліся ахоўнікі правапарадку і нацыянальных культурных традыцый, школьныя настаўнікі і дальнабачныя бацькі. Першымі рашуча адрэагавалі праваахоўныя службы Германіі, у прыватнасці пракуратура Баварыі, дзе знайшлі, што ў іх краіну бесперашкодна паўзе парнаграфічны бруд. У пачатку года кангрэс ЗША прыняў закон аб прыстойнасці ў вобласці тэлекамунікацый, які забараніў распаўсюджванне мярзотнага эратычнага бруду праз «Інтэрнэт». У Японіі затрыманы сексуальны фанат, які выпускаў у камп'ютарную сетку выявы голай натуры ў рознай ступені непрыстойнасці. Парушальніку чысціні «Інтэрнэт» пагражае два гады турмы і штраф у памеры 250 тысяч долараў.

Аднак самымі рашучымі дзеяннямі вызначыліся ўлады Францыі. Там разгорнуты сапраўдны фронт супраціўлення «кока-каланізацыі» і англа-амерыканскай духоўнай інтэрвенцыі, як гэта вызначаюць актывісты французскай нацыянальнай чысціні. Паводле амерыканскага часопіса «Ньюсуік», міністр культуры Францыі заявіў: «Некалькі вякоў таму назад мы заваёўвалі іншыя краіны. Зараз бітвы разгортваюцца ў кібернетычнай прасторы. Мы павінны замацаваць французскую прысутнасць у «Інтэрнэт». Нават сам прэзідэнт Францыі Жак Шырак, як паведамляюць згаданы амерыканскі часопіс ды іншыя сродкі масавай інфармацыі, рашуча выступіў у абарону духоўнай чысціні нацыі, выказаўшы меркаванне, якое вартае асаблівай увагі беларускай Вярхоўнай Рады і Прэзідэнта. Настойлівае выкарыстанне нават у кіберпрасторы англійскай мовы, заявіў прэзідэнт Францыі, «пагражае знікненню роднай мовы... і азначае пачатак канца для нацыі». Беларусам бы зараз гэтыя французскія клопаты.

**Ул.Ас.**

# У Албаніі камуністычныя грахі не даруюць

У сродках масавай інфармацыі з'явіліся паведамленні пра суды ў Албаніі над былымі кіраўнікамі камуністычнага рэжыму. Суд у Тыране, паведамляецца ў друку, нават вынес больш суровы вырак, чымся патрабаваў пракурор, прыгаварыўшы ажно да смяротнага пакарання трох высокапастаўленых дзеячаў часоў камуністычнага таталітарнага панавання: былога старшыню Вярхоўнага суда, былога генеральнага пракурора і былога шэфа тайнай паліцыі («Сігурымі»). Два другія «былыя» — экс-старшыня парламента і былы віцэ-прэм'ер — атрымалі пажыццёвы тэрмін зняволення ў сувязі са старасцю і кепскім станам здароўя.

— Усе пяцёра — гэта Араніт Чэлу, Ракі Міно, Зіліфтар Рамізі, Хаджы Ляшы і Мануш Мюфціў, — паведамляе карэспандэнт «Известий», — асуджаны, як сказана ў вердыкце, за знішчэнне нацыянальна свядомых албанцаў, злачынствы супраць чалавечнасці і палітычныя пераследаванні людзей.

Польская «Газета выборча», абмяркоўваючы суровы вердыкт албанскага суда, заўважае, што да гэтага часу будаўніцтва дэмакратыі ва Усходняй Еўропе абыходзілася без фактаў помсты і рэваншу. Толькі ў Румыніі была знішчана дыктатарская пара Чаўшэску, але адбылося тое ў першыя дні рэвалюцыі, калі камуністычны правадыр працягваў уяўляць сабой пагрозу. Вердыкт (прыгавор) у Тыране вынесены праз пяць гадоў пасля крушэння камуністычнага рэжыму, піша польская газета, ён скіраваны на тое, каб застрашыць «посткамуністаў» і іх прыхільнікаў.

Аднак, калі звярнуць увагу на самую Польшчу, то і там суды і пракуратура працягваюць даволі жорстка «успамінаць» былым камуністычным кіраўнікам іх колішнія грахі. Тое ж робіцца і ў Германіі. «Раскопваюцца» падзеі, якія мелі месца 20 і нават 30 гадоў таму.

Пра тое, што «новыя» камуністы прагнуць вярнуцца да абсалютнай улады і не збіраюцца цырымоніцца са сваімі «апанентамі» з нацыянальна-дэмакратычнага лагера, сведчыць многае, у тым ліку і апошнія падзеі ў нас. Дастаткова хаця б згадаць факт, калі лідэр фракцыі камуністаў у Вярхоўным Савеце С.Калякін нават адмовіўся падпісацца ў падтрымку вызвалення з турмы прафесара, доктара фізікі Юрыя Хадыкі і эколага Вячаслава Сіўчыка — прадстаўнікоў кіраўніцтва БНФ, хаця тыя і каналі ад галадоўкі ў знак пратэсту супраць антыканстытуцыйнага з імі абыходжання. Усё пазнаецца ў параўнанні, кажуць філосафы і гісторыкі.

**Ул.Ас.**

# На Захадзе дзяржава падтрымлівае незалежную прэсу

У нас, на жаль, шырокая публіка вельмі мала ведае, якія ж сапраўды адносіны на «капіталістычным» Захадзе паміж дзяржавай і незалежнымі газетамі. Праз афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі чыноўнікі стараюцца пераканаць, што тыя журналісты, якія хочуць выдаваць незалежную ад чыноўніцкай волі газету, павінны шукаць для гэтага грошы самі. «Як гэта робіцца на Захадзе», — падкрэсліваюць яны. Паміж тым «на Захадзе» не ўсё так проста, не кажучы пра тое, што ўлады па закону не могуць распараджацца газетамі. Існуе тым не менш даволі істотная дзяржаўная падтрымка прэсы, асабліва культуралагічнага, дзіцячага і адукацыйнага накірунку. Хаця атрымліваюць субсідыі і звычайныя інфармацыйна-грамадскія перыядычныя выданні. Прычым субсідыі такія, што часам каля іх някепска жывяцца некаторыя чыноўнікі і дэпутаты. Апошні такі выпадак, што стаў шырока вядомы, — вырак Вярхоўнага суда для Заходняй Швецыі па справе дэпутата парламента, які адначасова з'яўляўся выдаўцом правінцыйнай газеты «Дальслэннінчэн». Суд прызнаў, што выдавец зрабіў падлог, прысвоіўшы сабе шляхам махінацый 477 тысяч крон (а гэта каля 75 тысяч долараў) са сродкаў, якія выдзеліў газеце па лініі дзяржаўнай падтрымкі прэсы. Прычым і газеце перапала яшчэ нямала, нягледзячы на тое, што яна толькі правінцыйная, мясцовая.

*Па матэрыялах замежнага друку.*

# Лацінка вяртаецца да ўзбекаў

У школах Узбекістана сканчваецца навучальны год, апошні, калі ў навучальным працэсе выкарыстоўваецца кірылічная графіка. Усім узбекам трэба вывучыць новы алфавіт, які будзе канчаткова прыняты ў 2005 годзе. Другога верасня 1993 года Олій Меджліс (парламент) Узбекістана прыняў закон «Аб увядзенні ўзбекскага алфавіта, заснаванага на лацінскай графіцы, да 2000 года». У школах з узбекскай мовай навучання пачалі вывучаць лацінку. Прэзідэнт Іслам Карымаў не выступае супраць правядзення рэформы, але прапанаваў уводзіць вывучэнне лацінкі пакуль добраахвотна.

Бальшавікі ў 1929 годзе перавялі ўзбекскую ды мовы іншых народаў Сярэдняй Азіі з традыцыйнай арабскай графікі на лацінку. Але яны хутка зразумелі сваю памылку. Карыстаючыся лацінкай, сярэднеазіяцкія народы з вялікай цяжкасцю засвойвалі расійскую мову. І ўжо ў 1940 годзе камуністы гвалтоўным чынам сталі пераводзіць узбекскую мову з лацінкі на кірыліцу. І вось праз 56 гадоў лацінская графіка зноў вяртаецца да ўзбекаў.

**Падрыхтаваў А.Н.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



ВУЧЫМСЯ

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Пра лён — для студэнтаў

*(Заканчэнне.)*

Змяшчае навуковыя звесткі пра лён падручнік знакамітага батаніка, генетыка, селекцыянера акадэміка Антона Раманавіча Жэбрака (1902—1965), які нарадзіўся на Гарадзеншчыне. Яго праца называецца «Курс ботаники», з гэтай кнігі мы і працытуем вытрымку ў перакладзе на беларускую мову:

«Сямейства Лёнавыя (Linoceae)... Галоўным родам гэтага сямейства з'яўляецца **род лён** (Linum), шырока распаўсюджаны ва ўсёй паўночнай пазатрапічнай вобласці. Найважнейшым відам гэтага роду з'яўляецца прадзільны лён (L.usitatissimum), расліна з пяцічленнымі кветкамі, даволі вялікімі, амаль сэрцападобнымі пялёсткамі, 5 тычынкамі вонкавага круга, тады як унутраныя маюць форму зубцоў на кольцы, утвораных зрастаннем асновы тычынак. Завязь пяцігняздовая з двума насеннымі зачаткамі ў кожным гняздзе. Пыльнікі і рыльцы развіваюцца адначасова; магчыма самаапыленне.

Лён пасяўны вырошчваецца ў дзвюх разнавіднасцях: адной, высокай, з нераскрывальнымі пладамі, ужывальнай галоўным чынам для вырабу пражы з лубяных валокнаў, што развіваюцца ў кары (лён-даўгунец), і другой — не такой высокай, але галінастай, з раскрывальнымі каробачкамі, якія даюць галоўным чынам насенне, багатае алеем (лён-кучаравец). Ільняны алей хутка высыхае на паветры і выкарыстоўваецца ў значнай колькасці для вырабу алейных фарбаў і лакаў».

І ў гэтым тэксце выклад навуковых ведаў арыентаваны на спецыялізацыю навучэнцаў. Змест строга абмежаваны звесткамі па марфалогіі раслін, іх сістэматызацыі і класіфікацыі, відавых асаблівасцях. Найперш расліна (лён) характарызуецца паводле кліматычнай зоны распаўсюджання — вельмі абагульнена і сцісла, геаграфічным тэрмінам (паўночная пазатрапічная вобласць), адпаведна маштабам геаграфічнага размяшчэння.

Для падрабязнага разгляду вылучаны найважнейшы ў культурна-гаспадарчай дзейнасці чалавека від ільну; дэталёва апісана форма яго кветкі.

Наступная кампазіцыйная частка тэксту ўключае разгляд дзвюх разнавіднасцяў пасяўнога ільну праз іх супастаўленне (супрацьпастаўленне), што адлюстравана ў тэрмінах, злучальных сродках (супраціўным злучнікам **але**): **высокая, з нераскрывальнымі пладамі — нізкая, але галінастая, з раскрывальнымі каробачкамі.**

Моўная дэталізацыя, канкрэтызацыя апісання адбываецца пасля ўказання на асноўную прымету, праз розныя мадэлі ўдакладнення, найперш аднародныя члены ці сказы аднароднага падпарадкавання. Сінтаксічная складанасць афармлення зместу патрабуе засяроджанасці, увагі навучэнцаў, для якіх аўтар імкнуўся скласці строгую сістэму навуковага аналізу, упарадкуючы іх веды, уключаючы лагічнае мысленне ў асваенне навучальнага матэрыялу. Сігналам асобай увагі з'яўляецца непрамое (інверсійнае) размяшчэнне слоў, адрознае ад прывычнага: **лён прадзільны, лён пасяўны, завязь пяцігняздовая** і інш.

Традыцыйна для батанікі (як для іншых прыродазнаўчых навук) найменне відаў, родаў, сямействаў раслін дублюецца лацінскімі назвамі.

Для навукова-вучэбных тэкстаў важная найперш дыферэнцыяцыя ведаў (таксама і праз моўныя сродкі). Для гэтага выпрацаваны строгая сістэма тэрміналогіі, мэтанакіраваны адбор моўных сродкаў для вылучэння і мадэлявання навуковых ведаў у іерархічную сістэму — з мэтай іх усведамлення і засваення.

*Практычная стылістыка*

# «Для адпрацоўкі...»

«Для адпрацоўкі моўнай культуры ў заняткі ўведзены цыкл навукова-папулярных артыкулаў пра духоўную спадчыну беларусаў». Змест цытаванага сказа ўпэўнівае, што прыклад узяты з вучэбна-навуковага тэксту. На практычную накіраванасць выказвання ўказвае аддзеяслоўны назоўнік **адпрацоўка**, ужыты ў значэнні 'дзеянне для дасягнення высокага майстэрства ў нечым'. Адпрацоўваць можна нейкае канкрэтнае ўменне ці навык у іх канкрэтнай праяве — скачок, паварот, рух, танцавальнае па, дыханне пры спеве. Адпрацоўваць можна маўленчыя навыкі — вымаўленне (артыкуляцыю) гукаў; слоўны, лагічны, фразавы націскі, інтанацыю выказвання, таксама ўтварэнне граматычных формаў, выбар сінтаксічных канструкцый і слоў. Пералічаныя адзнакі фармуюць маўленчую культуру, сведчаць пра яе. Аднак паняцце **маўленчая** культура абстрагаванае, абазначае ўзровень валодання мовай. Па гэтай прычыне слова **культура** не спалучаецца з аддзеяслоўным назоўнікам **адпрацоўка**, да якога можна далучыць абазначэнні канкрэтных праяў культуры, што названыя ў вышэйпрыведзеных разважаннях. Са словам **культура** спалучаюцца найменні суадносных па глыбіні і абстрактнасці паняццяў: **развіццё культуры, фармаванне культуры, удасканаленне культуры, заняпад культуры** і пад.

Неабходна ўдакладніць словазлучэнне **моўная культура**, якое, паводле апошніх даследаванняў, разумеюць як абазначэнне адметнасці моўнай сістэмы, своеасаблівасці мовы як духоўна-культурнай з'явы. Для абазначэння ступені валодання мовай выкарыстоўваюць словазлучэнне **маўленчая культура** (параўнайце: **маўленчая дзейнасць, індывідуальнае маўленне**).

Неабходна адзначыць таксама, што пры аргументацыі ўвядзення артыкулаў пра духоўную спадчыну неабходна падкрэсліць іх ролю як праявы духоўнай культуры ва ўдасканаленні агульнай культуры асобы, бо мова з'яўляецца арганічнай формай існавання духоўнай культуры народа.

Улічаныя заўвагі ўвасобіліся ў двух варыянтах выпраўлення:

1. Для ўдасканалення маўленчай культуры прапанаваны навукова-папулярныя тэксты пра духоўную спадчыну беларусаў для ўдакладнення і паглыблення ведаў пра духоўную культуру асобы.

2. Для адпрацоўкі моўных уменняў і навыкаў у заняткі ўведзены цыкл навукова-папулярных артыкулаў пра духоўную спадчыну беларусаў.

*З гісторыі красамоўства на Беларусі*

# Пацвердзіць мір

*Сягні ў даўно заснуўшыя сталецці,*
*Заслонаў дзён уцёкшых адхілі,*
*І глянь, як сёння твае жывуць дзеці,*
*Як ты жывеш на прадзедаў зямлі.*

**Янка Купала.**

Дакумент, пра які пойдзе сёння наша размова, пачынае шэраг пасланняў у Рыгу, што даюць даволі выразнае ўяўленне пра палітыку вялікага князя літоўскага Вітаўта ў пытаннях знешнегандлёвых дачыненняў.

Напісана грамата полацкім намеснікам Манцігірдам у 1396 годзе і належыць да пацвярджальных, бо ў ёй прапаноўваецца захоўваць мір паміж дзвюма краінамі, заключаны ў 1392 годзе князем Сямёнам (Лугвенем) Альгердавічам.

У кампазіцыі ды змесце пацвярджальная грамата Манцігірда падобная на аналізаваныя намі тры смаленскія пацвярджальныя граматы (князёў Фёдара Расціслававіча, Аляксандра Глебавіча ды Івана Аляксандравіча). У ёй сфармуляваны 3 артыкулы: прапанова захоўваць мір, дазвол замежным купцам на гандаль і гарантаванне іх бяспекі. Уступная частка, афармленая адрасаваннем, — адметная ў форме: пералічаныя ў ёй адрасанты паслання падкрэсліваюцца яркім вылучальным стылістычным прыёмам — шматпрыназоўнікасцю (гэты прыём уласцівы і беларускаму фальклору). Адсутнасць прыназоўніка пры спасылцы на імя Вітаўта з'яўляецца сведчаннем асобага статуса князя. Яго кіроўная роля падкрэслена не толькі зместам, але і моўным, стылістычным афармленнем выказвання.

Улічваючы выразнасць, сцісласць, кампазіцыйную ўпарадкаванасць і стылёвую дасканаласць, працытуем дакумент поўнасцю:

***От намесника от палочького от Монтигирда і ото всехъ мужѣ от полочанъ князя великого Вытовътовымъ повеленьем къ ратманомъ.***

***Што есте со княземъ съ Семеномъ миръ оузяли і с мужи полочаны, штобы то такъ і здержали тотъ миръ крепъко, а мы такъ і держимъ крепъко, доколе ізыідеть.***

***А на томъ миру ваши пусть к намъ едуть чисто, а наши к вамъ едуть чисто.***

***А вам блюсти полочанина какъ бы своего немъчина, а мы хочемъ вашего немъчина блюсти какъ бы своего полочанина.***

Змест граматы пабудаваны на супастаўленні двух дамоўных бакоў, што праяўляецца ў аднатыпным афармленні сказаў, злучаных супраціўным злучнікам **а**, у якіх сцвярджаюцца пэўныя палітычныя захады Полацка і адпаведна ім акрэслены чаканыя дзеянні другога дамоўнага боку. Злучнік **а** традыцыйна выкарыстаны таксама ў пачатку выказванняў-«артыкулаў».

Адметны і моўны склад граматы: многія словы нясуць адбітак беларускамоўнай стыхіі, перадаюць заканамернасці моўнага развіцця, увасобленыя ў сучаснай літаратурнай мове — **узяць, намеснік, што, едуць, хочам** і інш.

Сцісласць стыль перадае не толькі афіцыйнасць паслання, але і ўменне дакладна, выразна і змястоўна выказвацца, надаваць значнасць зместу праз дасканалую форму.

*Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»*

Валянціна ВЫХОТА

# Коласавы зернеткі

*(Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў)*

*А бацька, страшны, поўны злосці,*
*Алеся лупіць без літосці;*
*І маці **рады даць** не можа —*
*Так моцна бацька абурыўся.*
*Даў бог, Ксаверыналучыўся.*

**Рада** 2. рады не даць а) не управиться, не сладить с кем-чем-л. (БРС). Machen Sie, was Sie wollen, ich kann mit ihm nicht fertig werden (DRS).

**Даць раду(ы)** б) адолець, управіцца з кім-, чым-н. (ТСБМ).

**Адолець**, 1. перамагчы ў барацьбе; асіліць (ТСБМ).

**Управіцца**, 4. Адолець, стрымаць каго-, што-н., падпарадкаваць сваёй волі (ТСБМ).

управиться разг. zurechtkommen (РНС); параўн. Ohne ihn kann ich nicht zurechtkommen без него я не смогу справиться (DRS).

Слоўнік сінонімаў нямецкай мовы (SW) дае: Rat, der; Rat wissen — helfen.

*І доўга ўсе яны смяялісь.*
*Назаўтра рана чуць разднела,*
*Чуць-чуць на ўсходзе пасвятлела,*
*Была кароткая **нарада**,*
*Каму вясці якога пана.*

**Нарада** 2. Сумеснае абмеркаванне якога-н. пытання (ТСБМ);

**Совещание** нарада (РБС); совещание Beratung f (РНС); Beratung f

1. совещание, совет; абсуждение (GDRW); Beratung, die; 1. etwas nach kurzer Beratung beschließen (WDG).

*Ідуць і ў сенях між сабою*
*Вядуць **параду**, як пастаць,*
*Каб бацька ўжо не мог згадаць.*

**Парада** 1. Прапанова, як дзейнічаць; рада. 2. Сумеснае абмеркаванне чаго-н., кароткая нарада (ТСБМ). Rat m 1; über etwas Rat halten (DRLW).

*Зямлі, як бабе старой сесці.*
*Папробуй, сядзь на гэтым месце...*
*— А дзе ты дзенешся? і сядзеш!*
*Нічога, браце, не **парадзіш**!*

**Парадзіць.** Нічога не парадзіш; б) пра неабходнасць згадзіцца з тым, што ёсць (ТСБМ);

**Поделать** 1. ничего не поделаешь! нічога не зробіш! (не парадзіш)! поделать; ничего не поделать (da ist) nichts zu machen (РНС).

*Бо хаце можна **раду даць***
*І на свой густ пабудаваць.*

Rat m 1. des kann Rat werden уст. Этому можно помочь; здесь можно найти выход, это не так уж страшно (GDRW).

*А дзе ж той выхад? дзе збавенне*
........
*Адзін ён ёсць: зямля, зямля.*
........
*Зямля не зменіць і не **здрадзіць**.*

Як наймацнейшай асновай і першай умовай жыцця з'яўляецца свая зямля. **Здрадзіць** 3. перан. Перастаць дзейнічаць, праяўляцца, перастаць служыць каму-н. (ТСБМ). На думку аўтара артыкула, у словы *зямля не здрадзіць* укладзены сэнс, што зямля не перастане служыць, тым больш, што гэтае меркаванне пацвярджаецца словамі з паэмы: *Зямля паслужыць да магілы.*

**Здрада** измена; предательство (БРС); измена, предательство Verrat m (РНС). Verrat m 1. измена, предательство; умышленное разглашение тайны (GDRW). У сэнсе «перастаць служыць каму-н.» можа адпавядаць ням. aufhören zu dienen.

Побач з іншымі аднакарэннымі словамі з коранем **-рад-** А.Брукнер лічыць найцікавейшым слова zdrada, бел. здрада. Яно з'яўляецца заходнеславянскім пазычаннем з ням. Rat.

Гісторыя слова Rat дадзена ў газеце «Наша слова», № 47 (259).

здрадзіць ням. verraten, ст.-в.-ням. firrătan, с.-в.-ням. verrăten, с.-ніж.-ням. vorrăden (адтуль пазычана позн.-ст.-паўночнае forrăða. Асноўнае значэнне 'мець намер зрабіць каму-н. порчу, пашкоджанне; пагібель, а потым зрабіць гэта каму-н . Далей слова набыло значэнне выдаць — 4. выдать чью-л. тайну j-s Geheimnis verraten (РНС).

*А патрывожаныя пчолы*
*Спяваюць хорам, як анёлы,*
*Але кусаюць па-чартоўску.*
...
*Угнуўся дзядзька — **няма рады**,*
...
*Схапіўся дзядзька ды наўцёкі*

Рады няма — не хапае сілы, магчымасці справіцца з кім-, чым-н. (ТСБМ), спасу няма — тое, што і ратунку няма (ТСБМ). Rettung f 1. hier gibt es keine Rettung здесь нет спасения (GDRW).

*Жывое слова*

# Часапісцы

Згадваецца адзін ліст у тэлевізійны часопіс «Роднае слова». Наш глядач, — прыгадваю, то быў вайсковец, і даволі высокага чыну — ні то з цікаўнасці, ці з жадання паказаць, падкрэсліць несуразнасць нашае мовы, пытаўся: чаму гэта ў беларускай мове такая неадпаведнасць, такая разбежка паміж аднымі і тымі ж паняццямі. Скажам, ёсць слова «часопіс», і яно зразумелае яму: часопіс — таму так завецца, што апісвае, фіксуе час, піша пра час. Але чаму прафесія чалавека, які працуе ў часопісе, мае зусім іншую назву: «журналіст», ад слова «журнал», якім беларуская мова не карыстаецца, якога ў беларускіх слоўніках няма?

Што ж, пытанне лагічнае.

Тады, памятаю, таму вайскоўцу мы адказалі, што такая з'ява назіраецца ў іншых мовах. І гэта натуральна. І паказалі гэта на прыкладах украінскай, польскай і іншых моў.

Адказаць то адказалі, але не пераканалі. Дый сам я праз пэўны час пачаў думаць: «А напраўду — а чаму, калі ёсць слова «часопіс», слова чыста нашае, славянскае, мы не можам утварыць і адпаведнае з яго слова па ўзору, мадэлі з словам журналіст? Скажам, «журналіст-часапіст», «часапісец» — той, хто апісвае час.

Напачатку мо і нязвыкла будзе, але з часам звыкнемся. І ніхто нас дакараць не будзе, што няма логікі паміж пэўнымі паняццямі і з'явамі ў беларускай мове. Усё будзе лагічным.

Мелі мы калісь летапісцаў. Яны пісалі летапісы.

Зараз мы займелі часопісы, якія таксама пішуць летапіс жыцця. То хай людзі, якія працуюць у часопісах, і завуцца часапісцамі.

Тады і слоўнікавае гняздо будзе лагічнае і зразумелае:

Часопіс — часапісец — часапісцы.

Паміж іншым, слова «часопіс» таксама мае сваю эвалюцыю, сваю біяграфію. Напачатку стагоддзя яно ўжывалася ў жаночым родзе: часопісь. Зараз яно мае мужчынскі род...

У суседняй Польшчы ёсць друкаванае беларускамоўнае выданне, якое названа згаданым тут словам «Часопіс». Наша «Літаратура і мастацтва» таксама назвала адну з сваіх інфармацыйных рубрык «Часопіс». То, мусіць, натуральнай будзе і мая прапанова: спакавала ўводзіць у нашу мову слова «часапісец, часапісцы», якое павінна стаць адэкватным словам «журналіст». А якая ваша думка з нагоды гэтай прапановы?

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Хачу ведаць*

# Усё ж — адна

У № 14 «Нашага слова» на 4-й паласе змешчана цудоўнае выслоўе Бальзака: «З усіх чалавечых ведаў найменш **развітая веда** (падкрэслена мною — **М.В**) пра сужонства». Дапушчана самая прымітыўная калька з расійскай.

Глядзіце хаця б «Русско-белорусский словарь», Менск, 1995 г., том. 1, стар. 530.

Знани/е ср. 1 (наука) Ве́ды, — даў, ед. нет; область~я галіна ведаў;...

На мой розум, больш па-беларуску выслоўе будзе гучаць так:

«З усіх чалавечых ведаў найменш распрацаванымі застаюцца веды пра шлюбнае жыццё (сужонства?)».

**З павагай маляр Міхась ВЕРАЦІЛА.**
г.п.Краснасельскі.

Шаноўны спадар Міхась!

На жаль, беларускую, правільную, абгрунтаваную форму слова не заўсёды можна знайсці ў слоўніках, асабліва ў тых, што зазналі бальшавіцкую цэнзуру. Але, прыкладам, В.Ластоўскі ў «Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку» (1924 г.) дае веду: «**Знаніе** ср. веда... *Навука веду дае. Без навукі няма веды».*

І знакаміты наш паэт Уладзімер Жылка ў вершы «Мы любім даўнія паданні» (1921) напісаў:

*«Нам даспадобы чэрпаць веду*
*Гісторыі з пажоўклых кніг...»*

Але не толькі таму і мы ўжылі слова *веда* ў форме адзіночнага ліку. Заважыла і меркаванне аднаго з буйнейшых этымолагаў Макса Фасмера. Гэты нямецкі мовазнаўца ў «Этимологическом словаре русского языка» падаваў такія паралелі старажытнаславянскаму вѣдѣ: лацінскае vidi, старажытнаіндыйскае vе́da, авесційскае vaeda... у значэнні 'я знаю '(я ведаю), а таксама старажытнаіндыйскае vidá 'знание' (веда). Дык што, старажытныя індыйцы калькавалі з расійскай?

Вядома, можна сказаць, што супадзенне нашага і, здавалася б, вельмі далёкага індыйскага (санскрыцкага) словаў выпадковае. Але, як можна меркаваць з падабенства міфалогіі, фальклору і абрадаў, радство несумненна ёсць.

**З.СІЦЬКА,**
**які перакладаў тое выслоўе.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



**Беларускае Адраджэнне**

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Іван Фёдараў — таленавіты педагог і асветнік

Уласна экзэгетыка-тэксталагічная частка Фёдараўскіх «Азбукі» і «Буквара» прапануе ўвазе чытача паўсядзённае правіла з найбольш ужывальнымі малітвамі: Малітвы Гасподняй, Песні Багародзіцы, Малітвы Прасвятой Тройцы, Сімвала Веры, «Царю Небесны», традыцыйныя пачаткі-формулы «За молитвъ святыхъ отецъ нашихъ», «Слава Тебе, Боже наш, слава Тебе», «Слава Отцу и сыну и Святому Духу», «Приидите поклонимся», Трысвятое, вячэрнія малітвы: выспавяданне грахоў «Ослаби, остави, отпусти...» і дзве малітвы з чына «Вялікага павячэрыя»: Малітва Васіля Вялікага і «Молитва Манасия, царя иудейска, внегда плененъ бысть отъ всеводъ царя асирийска и заведен до Вавилона». У астрожскай «Азбуцы» да чыну малітваў дадаецца яшчэ і 50-ы псалом.

Змяшчэнне малітоўнага правіла ў старажытных падручніках было не выпадковым, бо паводле малітваў і ўрыўкаў са Св. Пісання не адно пакаленне нашых продкаў навучалася чытаць і пісаць. Уся рэлігійная асвета вызначалася павагай да тэксту, стаўленнем да яго, як да кананічнай, узорнай сістэмы існавання слова. Агульнавядома, што ўся сярэдневяковая культура была значна больш духоўнай і інтэлектуальнай за сучасную, бо будавалася на шматразовым прачытанні аднаго тэксту, а не аднаразовым шматлікіх, і таму вельмі часта ўважлівы і пільны зрок даследнікаў у тыя часы быў значна бліжэйшы да сутнасці з'явы, чым мітуслівы новага часу. Слова ў тую эпоху было тоесна «святой святых», ужыць і занатаваць яго пісьмова дазвалялася толькі пасля духоўнага ачышчэння.

Адзінае дакладнае слова, як лічылася ў тыя часы, было не ў стане перадаць усе глыбіні тэксту, якія можна было адлюстраваць толькі «словеснымъ извитиемъ», «плетениемъ словесъ», сінанімічнымі паўторамі аднакарэнных слоў, тонкім сумяшчэннем розных граняў значэння.

Характэрнай уласцівасцю старабеларускай, як і кожнай сярэдневяковай, літаратуры з'яўлялася **мазаічнасць**, калі ў адным творы дазвалялася спалучаць урыўкі, цытаты з кніг аўтараў, адрозных па стылях, жанрах, эпохах. Найбольш каштоўнымі ў такой іерархіі былі цытаты са Св.Пісання, урыўкі з твораў Айцоў Царквы, якія, як лічылася, асвячалі чытача дабрадаццю Св. Духа. Варта зазначыць, што мастацкі ці дыдактычны твор без такога цытавання выклікаў нават непавагу не толькі ў колах хрысціянскіх пісьменнікаў, але і сярод чытачоў.

Кароткая хрэстаматыя, па сутнасці, уводзіны, пачатак пасляслоўя ў І. Фёдарава пабудавана менавіта ў рэчышчы такой традыцыі. Гэта пераказ маральна-дыдактычных развag з Кнігі Прытчаў Саламона і Пасланняў апостала Паўла, у прыватнасці «Паслання да ефесіянаў».

Цытацыя з Кнігі Прытчаў Саламона падабрана паводле ўзору амаль дакладнай анафары пачатковых зваротаў кожнага абзаца: «сыноу мой» ці «сыноу». Выкладанне маральна-дыдактычных парадаў у 4-м абзацы цытацыі завяршаецца разгорнутай сістэмай правобразных біблейскіх параўнанняў: «Сыноу, іажь медъ, панеже есть добрыи, и соть медовъ есть сладокъ гортани твоемоу, такоже и наоука моудрости души твоей, поищеши ко брящеши, и имѣти боудеши въ послѣдняя дни надеждоу, и надежда твоя не погибнетъ отъ тебе».

Наступныя два абзацы — зварот да бацькоў і настаўнікаў. Надзвычайнай мудрасцю ўражваюць радкі сярэдневяковага педагога, колькі ў іх спагады, чуласці, якое глыбіннае разуменне цярплівасці і любові, з дапамогай чаго, як высвятляецца, толькі і можна наблізіцца да душы і розуму вучня, дзіцяці: «Отцы, не раздражайте чадъ своихъ, но въспитайте ихъ въ милости, въ благоразоумїи, въ кротости, въ долготерпѣнїи приемлюще дроугъ дроуга и прощенiѐ дароующе... Надо всѣми ж сими любовь, іаже ость съюзъ съвершенїю, и миръ Божїй да раздѣляется въ сердцах вашихъ...»

Апошні абзац гэтага ўступу да пасляслоўя, своеасаблівых экзэгетычных уводзін, завяршаецца згадваннем асноўнага зместу Дэкалога і Нагорнай Пропаведзі, якія выводзяцца з трыяды літасці, радасці і малітоўнай удзячнасці Богу за дасканаласць Сусвету.

**Рупліўцы**

# З цемры да святла

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 3.)*

**— Якую менавіта?**

— Праблему нашага выжывання. Я лічу, каб тыя, хто сёння выступае супраць беларушчыны, у тым ліку і высокапастаўленыя чыноўнікі, прачыталі гэту кнігу, то ў многім яны б змянілі сваю пазіцыю. Часам у нас выступаюць супраць беларускай адраджэнскай ідэі толькі таму, што мала ў гэтым пытанні дасведчаныя. Яны не разумеюць, якое велізарнае значэнне для цывілізацыі, не кажучы ўжо пра славянскую супольнасць, мае захаванне нашай нацыі. А яны ва ўсякім шчырым беларусу бачаць нацыяналіста, прычым у бальшавіцкім разуменні слова. Я б рэкамендаваў такім людзям пачытаць хаця б адзін раздзел з маёй кнігі, а менавіта — «Дзяржаўны суверэнітэт Беларусі: традыцыі і наватарства», у якім гаворыцца, што яшчэ нашы далёкія продкі валодалі высакародным пачуццём дзяржаўнасці і на працягу многіх стагоддзяў адстойвалі незалежнасць беларускай зямлі — ці то ў межах магутных феадальных княстваў, ці то ў межах Вялікага Княства Літоўскага. Практычна апраўданым з'яўляецца дагавор 1569 г. (унія з Польшчай), які ў даволі поўным аб'ёме гарантаваў суверэннасць княства. Гэта ўжо потым, шляхам шантажу і падману, удалося палякам істотна ўрэзаць нашу суверэннасць і вытравіць са свядомасці значнай колькасці грамадзян разуменне неабходнасці мець сваю дзяржаву, жыць у сваім двары. У падраздзелах «На польскім ворчыку», «Выбар уласнага шляху», «Абцятая суверэннасць», «Стрымгалоў да бездзяржаўнасці» вызначаюцца гістарычныя перыпетыі барацьбы беларусаў за нацыянальную незалежнасць, паступовая страта нацыянальных ідэалаў, што відаць па беларускаму савецкаму і постсавецкаму бесхрыбетнаму і безнацыянальнаму дзяржаўнаму і партыйнаму кіраўніцтву ў Беларусі, дзейнасць якога зыходзіла выключна з інтарэсаў маскоўскага цэнтра. Таму і не маем кіраўнікоў рэспубліканскага маштабу, якія б выходзілі на ўзровень сапраўдных лідэраў нацыі. Усе яны імкнулі і імкнуць стрымгалоў у бездзяржаўнасць. Апошнія партыйныя лідэры Слюнькоў, Сакалоў і Малафееў былі заўзятымі праціўнікамі беларускага культурнага адраджэння.

**— І якая Ваша канчатковая выснова?**

— Выснова такая: ніводная краіна, якая сур'ёзна думае аб сваім эканамічным і духоўным росквіце, ні пры якіх акалічнасцях не павінна ісці да бездзяржаўнасці. Дзяржаўнасць — гэта самы светлы ідэал развіцця кожнай нацыі. Да яго не імкнецца толькі народ, пакрыўджаны Богам і прыродай, які не можа сцвердзіцца як нацыя. Гісторыя паказвае, што наш народ не такі. Паглядзіце, якія нядаўна выбухнулі ў Менску падзеі: 24 сакавіка, 2 красавіка, 26 красавіка, 1 траўня, 9 траўня і г.д. Як выйшлі на вуліцы з гістарычнымі, нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі людзі, прычым маладыя, адстойваць незалежнасць дзяржавы. І ў свае семдзесят гадоў яны будуць з вялікім гонарам расказваць аб гэтых падзеях сваім унукам. А здавалася, усё было грунтоўна зроблена дзеля таго, каб ніхто і слова не пікнуў пра ўдзел у мітынгах і дэманстрацыях.

**— У Вас ёсць кніга «Назвы зямлі беларускай», у якой Вы выступаеце абаронцам нацыянальнай тапаніміі і разам з тым паказваеце, што яна — дзейсны сродак адраджэння нацыянальнай свядомасці. Што падштурхнула Вас да напісання гэтай мовазнаўчай працы?**

— З'яўленню гэтай кнігі папярэднічала мая барацьба на працягу 11 гадоў за вяртанне спрадвечнай назвы роднаму мястэчку Магільнае, якое ў 1979 г. было перахрышчана ў «Нёман». Падбіраючы «мілагучныя» назвы, улады за пасляваенныя гады памянялі сотні найменняў нашых населеных пунктаў. Аднак, на жаль, што мяне і сёння яшчэ расчароўвае, ніхто з нашых пісьменнікаў і вучоных, палітыкаў і грамадскіх дзеячаў не паруліўся ратаваць гістарычныя назвы хаця б сваіх родных мясцін. Больш таго, калі я прасіў іх — уплывовых і пры пасадах — дапамагчы мне вярнуць назву Магільнае, яны заявілі: «А чаго вы гэтак ваюеце? Назву маёй вёскі таксама памянялі, а я і не падумаў яе бараніць. А вы і самі ваюеце, і мяне запрашаеце гэта рабіць». Аднак мой нацыянальны патэнцыял не дазваляў мне абыякава ставіцца да гісторыі і культуры. Я ва ўсе інстанцыі многа пісаў абгрунтаваных запісак аб вялікім значэнні нацыянальнай тапаніміі і настолькі ўжыўся ў гэтую тэму, прыцягваючы ў якасці доказаў матэрыялы з іншых рэгіёнаў СССР і краін Еўропы, дзе, не ў прыклад нам, з любоўю ставяцца да сваіх гістарычных назваў, што калі вярнуў назву сваёй вёскі і паглядзеў, як многа ў мяне сабралася матэрыялаў па тапаніміі, то вырашыў напісаць кнігу для шырокага кола чытачоў. У пачатку 90-х гадоў я стаў старшынём Тапанімічнай камісіі пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая займаецца пытаннямі вяртання старых назваў і надання назваў новым пасёлкам. Таму мая патрыятычная работа па захаванні моўнага скарбу народа працягваецца, толькі ўжо на іншым, афіцыйным узроўні.

**— 30 сакавіка г.г. на Рэспубліканскай канферэнцыі прагучаў Ваш даклад «Беларуская мова як аб'ект дзяржаўнай дыскрымінацыі». Для Вас гэта таксама праблема нумар адзін?**

— Пішучы пра беларускую мову ў сацыялінгвістычным плане, ніяк нельга абысці пытанне яе дыскрымінацыі. Залаты росквіт у беларускай мовы быў вельмі кароткі: перыяд Вялікага Княства Літоўскага, перыяд беларусізацыі ў 20-я гады і трошкі ў наш час. Сёння куды прасцей пісаць пра яе дыскрымінацыю, чым пра тое, як дзяржава спрыяе развіццю, пашырэнню яе сацыяльных функцый. Бо такога ж няма на практыцы.

**— Як Вы лічыце, беларусізацыі канец?**

— Зверху ёй добра абухом загрэлі, але сам гэты працэс у неафіцыйнай сферы, на побытавым узроўні не спыніўся. І што б цяпер ні рабілі і ні гаварылі, як бы ні ахайвалі наша нацыянальна-культурнае адраджэнне, яно працягваецца, яно бессмяротнае, як і сама нашая нацыя. У мяне ёсць факты, што многія людзі замест таго, каб адысці ад беларускай мовы пасля рэферэндуму, наадварот, сталі ўжываць яе часцей у міжасобасных кантактах. Гэта рэакцыя на несправядлівасць, на ганьбу нацыянальных каштоўнасцяў. Вядома, у тым, што адбылося з нашай мовай у выніку рэферэндуму, ніякай навацыі ў палітыцы нашага ўрада няма. Ён паўтарыў тое, што зрабіў польскі ўрад у Заходняй Беларусі, што рабілі многія каланіяльныя ўрады.

**— Ваш позірк у будучыню?**

— Лічу, што народ з такой багатай гісторыяй і духоўнай спадчынай, як наш, будзе жыць. Нас нельга загнаць так далёка ў падпечак, каб не быў чутны наш голас. Заўсёды будзе панаваць абуджэнне ў нашым краі. Дачакаемся, што ўрад нарэшце скажа: «Годзе. Я стаміўся ваяваць з беларускамоўнымі тэндэнцыямі і плынямі, я станаўлюся на шлях адраджэння так, як даўно ўжо стаіць гэты народ». І чым далей нашыя палітыкі будуць адцягваць прыняцце такіх захадаў, тым яны больш прынясуць шкоды і абцяжараць правядзенне беларускай нацыянальнай палітыкі, якую, упэўнены, абавязкова павінен будзе праводзіць новы ўрад.

**— А калі раптам ажыццявяцца планы канфедэратыўнага аб'яднання абедзвюх краін?**

—Тады наш лёс будзе не зайздросным, пакутным, але ўсё роўна свае нацыянальныя ідэі мы не пакінем. Яны будуць ажыццяўляцца ў любой форме інтэграцыі, нават у той, якая была да распаду СССР. Мы гінем ад таго, што ўсталяваліся няправільныя суадносіны паміж беларускай і рускай культурамі. Спадзяюся на падтрымку рускай інтэлігенцыі, для якой шавіністычныя імперскія амбіцыі маюць другараднае значэнне. Хацелася б разам з ёю шукаць шляхі адраджэння адной з самых старажытных славянскіх нацый — беларускай. Праводзячы курс палітычнай інтэграцыі, мы ставім у занядбанне ўсё нацыянальнае. Пра гэта нельга забывацца.

**— А кажуць, што мы паўтараем тое, да чаго прыйшла Еўропа?**

— Гэта няпраўда. Еўрапейскія нацыі ўступілі ў інтэграцыю, аформіўшыся папярэдне ў моцныя нацыянальныя і дзяржаўныя супольнасці, а мы ідзём у інтэграцыю нейкімі пластылінавымі камякамі. Калі б у Еўропе не адбыўся працэс утварэння нацыянальных дзяржаў, яна б не была сёння самым цывілізаваным кантынентам нашай планеты. Таму я прыхільнік нацыянальнай дзяржавы.

**— Вашы творчыя планы і што Вас найбольш сёння хвалюе?**

— Мае планы не адпавядаюць майму ўзросту. Пішу шмат. У выдавецтвах ляжаць мае працы, вялікія па аб'ёму, але па розных прычынах не выдаюцца. У інстытуцкіх калектыўных працах таксама выступаю па праблемах нацыянальна-культурнага адраджэння. Імкнуся публікавацца ў масавых выданнях, каб больш уплываць на свядомасць чытачоў. А найбольш мяне хвалюе зараз страшэнны працэс дэнацыяналізацыі беларускай прафесійнай культуры.

**— Шчыра дзякую за гутарку і поспехаў Вам!**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

**«Гіт-ліставанне»**

# Хачу кіно на роднай мове

*Шаноўная рэдакцыя! Узяцца за асадку мяне падштурхнула адна інфармацыя, пададзеная ў 21-м нумары вашай газеты ў новай рубрыцы «Кіна-відэа-аўдыё-навіны», пра існаванне беларускамоўнай копіі амерыканскага баевіка «Прывід у сталёвай масцы». Нічога не чуў пра гэты фільм, але маю вялікае жаданне мець хоць бы адзін відэафільм на роднай мове. Іншы раз у мяне ўзнікала жаданне самому перакласці на беларускую мову які-небудзь фільм, нават хоць бы і з расійскай копіі. Але ж гэтага не зробіш са звычайным «відзікам».*

*Дык можа шаноўнае спадарства (ці сам Вітаўт Мартыненка) зробіць ласку і дапаможа мне займець беларускамоўную копію відэафільма. Бо такога нідзе не купіш, нават за вялікія грошы. Я вельмі спадзяюся на вас і чакаю вашага адказу. Калі ўласная дзяржава не хоча дапамагаць сваім жа грамадзянам, дык нам трэба без яе падтрымкі садзейнічаць пашырэнню беларускай мовы. Не адраджэнню, але вяртанню яе да беларусаў. І такім крокам можа стаць самадзейнае распаўсюджванне беларускамоўных копій відэафільмаў, у прыватнасці.*

**Ваш сталы чытач Яўген САЛЯЙЧУК.**

**Ад рэдакцыі:** Вашыя словы «нічога не чуў пра гэты фільм» не падаліся нам дзіўнымі. Вядучы нашай новай рубрыкі «Гіт» таксама расказвае: «Калі мне выпала нагода пабываць у Амерыцы, у канадскім горадзе Таронта, я завітаў у адну з шматлікіх відэакрамаў. Нават па якімсьці адным жанры было столькі назваў, што за ўвесь дзень не пераглядзіш толькі вокладкі касетаў. А каля сціплага стэнда «Новая Еўропа» я ўбачыў узоры кінапрадукцыі з Польшчы, Венгрыі, Чэхіі... Гэта было бліжэй да нас, і ўсё адно пераконваўся, што пра той або іншы фільм нічога не чуў. Дадайце да гэтага мае адкрыцці ў таронцкім супермаркеце «Greek City Video», дзе можна было знайсці любы фільм з Грэцыі як на мове арыгінала, так і ў перакладзе, і вы зразумееце, наколькі наш кінарынак адрозніваецца ад іхняга». Так што, як бачым, словы «нічога не чуў» самі па сабе нічога не значаць. Не чулі пра фільм, дык звярніце ўвагу на ягоных стваральнікаў: хіба імя Бары Левінсана, які шмат супрацоўнічаў і з Стывенам Спілбергам, і з Гарысанам Фордам, нічога не гаворыць? А артыста Джэка Гулда вы проста не маглі не заўважыць, бо ў якой жа хаце не прымаецца тэлеканал «РТР», дзе ішоў фільм «Уцёкі да Афіны», а на канале Санкт-Пецярбург нават рубрыка была «Джэк Гулд у фільме «Казярог-1». Прыкметны артыст. Ну а сам фільм «Прывід у сталёвай масцы» вяртае нас у часы халоднай вайны і распавядае пра нядаўнюю спробу савецкага генерала КДБ Азарына праз сяброў з былой ГДР пралезці ў таямніцы амерыкана-нямецкага ракетнага праекта. На беларускую мову фільм перакладаўся з нямецкай копіі. Работа прыпынена на этапе звядзення фанаграм у студыі Менскага відэасалона з-за адмовы ў карыстанні мікшэрскім пультам. На сённяшні дзень існуе асобная відэаматрыца з нямецкай гукавой дарожкай і падагнаная да яе па хранаметражу асобная стужка з беларускім гукам. Бадай што, звычайны ВМ з сістэмай караоке мог бы дапамагчы вырашыць праблему. Калі ў каго ёсць сустрэчныя прапановы, пакіньце іх у рэдакцыі «Нашага слова».

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

